—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
25
КАСТРЫЧНІКА
1991 г.
№ 43 (3609)
ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)






**Пад час афіцыйнага візіту на Беларусь старшыня Вярхоўнага Савета Летувы Вітаўтас Ландсбергіс усклаў вянок да помніка на плошчы Перамогі ў Мінску.**

Пра візіт В. Ландсбергіса — на стар. 2.

Фота С. ГРЫЦА.

Пімен ПАНЧАНКА



# ГРАХІ НАШЫ ПАДЛІЧАНЫ...

## Раўнавага

Я не веру нікому
і вы мне, прашу вас, не верце:
Усё пераблытаў
атрутны чарнобыльскі вецер.
Не ведаю, з кім мне вітацца,
каму мне руку падаваць!
І з кім весяліцца за чаркай,
і з кім у бядзе бедаваць!
Звярэе душа ў нас
ад дзікай бяздоннай самоты,
Гавораць, палова ў нас членаў саюза —
даносчыкі і сексоты...
Ты помніш: зямля скаланулася ў нас,
і сэрца трывожна заныла.
Бабулі заплакалі ціха:
канчаюцца дні ў нас зямныя.
Загінулі хлопцы —
рэактара выратавальнікі.
Ды ўсміхаюцца весела
баявыя нашы начальнікі.
— І нічога ў нас страшнага, —
гэтак гадамі манілі.
Ляжаць ужо сотні і тысячы
ў атамнай чорнай магіле.
А нашы маўклівыя людзі,
што зналі загад: «Нарыхтуйце!»,
Сягоння зайшліся ад крыку:
«Ратуйце, ратуйце, ратуйце!»
І пачулі нас землі
такія далёкія, дальнія:
І Германія, і Амерыка,
і са Швецыі людзі, і з Даніі.
Прысылалі пасылкі для нас
з лекамі, аднаразавымі шпрыцамі
З дзіцячаю ежай...
З'явіліся медыкі-рыцары.
Утварыліся фонды шматлікія
пад назвай «Дзецям Чарнобыля».
І кароў з малаком ядавітым
усюды ў нас гробілі...
І тут дайшло да правіцеляў,
гэта не жарты, а горачка!
Раўнадушным Слюньковым, Камаям,
Сакаловым
не холадна і не горача.
Склалі планаў дзве сотні
пра дапамогу, перасяленне.
Нашы Гомель і Магілёў
у ачмурэнні былі, асляпленні.
Акадэмік Ільін —
дзяцей паляшуцкіх забойца.
«Дзе жылі, там жывіце,
Радыяцыі, друг мой, не бойся!
У чатыры разы
можна ў вас павялічваць дозы», —
Ён — агент МАГАТЭ,
не бачыць ніякай пагрозы.
Тут начальства махнула рукой —
і разбегліся медыкі ўмомант...
О, мая Беларусь шматпакутная,
гэта ўсё нам знаёма, знаёма!
І ўсё, што нам добрыя людзі
ад сябе адарвалі, сабралі,
Члены фондаў і камітэтаў
усё расцягнулі, раскралі.
А японскі прафесар
Юкі Сато
Глядзеў на дзяцей нашых
ў скрусе.
«Бяда ў вас вялікая,
беларусы.
А МАГАТЭ
наша хлусіць».
Пагладзіў ільняныя галоўкі,
нібы развітаўся з усімі.
«Мне шкада беларускіх дзяцей —
гэта горш Хірасімы».
Вось так пяднался
гісторыя з геаграфіяй.
Па ўсёй неабсяжнай зямлі арудуе
атамная мафія.
А тут з Генштаба арлы
наш плач заглушылі клёкатам:
«Вы народ гераічны,
клаўся вораг тут покатам».
«...Вось, кажуць, палова краіны,
атрутным засыпана попелам,
А вашы лясы партызанскія —
спрадвеку смалістыя, цёплыя».
І тут генштабісты
знайшлі раўнавагу адразу.
Паставілі ў лясах Беларусі —
дваццаць тры ракетныя базы.
І дзе вы, крыніцы крыштальныя!
І дзе вы, суніцы, чарніцы!
Нас зноў абдурылі
ваенныя чараўніцы.
І веру я бабкам старэнькім,
Што Богу пра лёс свой так жаляцца:
Свету канец набліжаецца!
Свету канец набліжаецца!
Уся Беларусь ад Чарнобыля
да сцежак і мінскіх, і брэсцкіх,
Закладзена д'яблу і мафіі.
Ніхто ў тым не разбярэцца.
Скажыце мне, добрыя людзі,
ці праўда, што свету канец!
Я плачу над лёсам сваёй Беларусі,
сівы і бязногі баец.

## Наш час

«Не дай Бог свінні рог,
А мужыку — панства!»
Я хацеў бы нарадзіцца
У часы паганства...

Тут парог,
Тут і Бог
І свяці, Ярыла,
А той рог,
Свіны рог
Сістэма стварыла.

Што сістэма!
То не тэма
Для паэзіі
У наш час.
Дарагая партсістэма
Акалпачыла ўсіх нас.

Вось ідзе той апаратчык,
Пралетарска-класавы,
Ён слуга і ён падрадчык
Мафіі фінансавай.

Ён саветы гнеўна лае,
За багаццем гоніцца.
Самадзержцу Мікалаю
Ён яшчэ пакłоніцца.

То лявее, то правее,
Толькі ўверх ірвецца.
Куды вецер вее,
Туды голле гнецца.

Грахі нашы падлічаны,
А цярпець абрыдла.
Народ акаталічаны
Крычыць на беларусаў —
Быдла!

Што за строй!
Чыя ўлада!
Дзе чаканы
Светлы дзень!
Гультаям дае зарплату
Мафіі галоўны пень.

Хто сягоння гоніць пену,
Страшыць плёткамі бабуль!
Ставіць д'ябальскія цэны,
А тавараў добрых — нуль.

«Усё грамадства рак спаліў», —
Так напішуць класікі.
Распаўзліся па зямлі
Дзеці — метастазікі.

Іх бацькі заткнулі дзіры
У міністэрствах, ВНУ.
Цягне іх у рэкеціры
І не трэба тых навук.

Іх хвалююць не алені,
Не бары і не гаі.
То не наша пакаленне,
Сённяшнія бугаі.

На Радзіму ім пляваць,
Пальцы душаць кволага.
Грошы, грошы —
Маць, прамаць!
Ветэраны — ворагі.

Біце ў званы
Са званіцы,
Што настаў
Збаўлення час.
Усё змяніць!
І ўсім змяніцца! —
І бяда пакіне нас.

●

Сем дзесяткаў год расцілі
Ля дзяржаўнае дзяжы,
Гадавалі гэту сілу
На хлусні і крадзяжы.

Ёй імя наменклатура.
Чуў ты іх каманды рык!
З боку сэнсу і культуры
Намі правіць хам прывык.

Дзе цяпер прамоўцы тыя,
Што прывыклі нас пужаць!
Іх сакрэты залатыя
У Швейцарыі ляжаць.

Хоць і бедна, але проста
Сустракацца нам і жыць...
Але, ведайце, што помста
Ліхвяроў услед бяжыць.

●

Паводкі, землятрусы, азвярэлыя
вулканы,
І сонца прагне ураджай спаліць.
А мы цяпер галоднымі ваўкамі
Сядзім каля пустых паліц.

Праклён вам, наменклатурныя
монстры! —
Самы паразітычны клас.
Загубілі працу аратых і рамёствы,
І зямля адцуралася ад нас.

Канец дваццатага крывавага веку.
Яшчэ не выплакалі слёз удовы вайны.
За тое, што давялі да жабрацтва
чалавека,
Не адчувае ніхто віны.

І след камунізму — рэспубліканскія
бітвы...
І толькі прапойца, замызганы бомж
Шэпча ля царквы забытыя малітвы,
Прабівае дарогу да Бога ілбом.

## Над магілай маці

Пад высокімі ціхімі дрэвамі
На ўшацкіх могілках у вячэрні час,
Дарагая Куліна Андрэеўна,
Паміналі мы Вас,
Гаварылі пра Вас.

Ён працяў нас наскрозь,
Той Рыгораў настрой.
Пра такіх (не паэтаў — сыноў)
Маці кожная марыць.
Праспяваў ён пра сэрца
І песні матулі сваёй,
Партызанскі сынок —
Барадулінскі малец.

Мы гарэлку пілі,
Памінаді душу,
Пралілі на магілу
Кроплю горкую тую.
Я той помнік Куліны
У сэрцы нашу.
І сваю дарагую
Успамінаю матулю.

А пазней быў і Полацк.
Мы ў Полацк
Завярнулі ўцішы.
Тут Зямля Ефрасінні,
Дзе стагоддзі гнялі нас цяжкія...
А на ўзгорку высокім,
Як помнік жаночай душы,
Белы храм красаваўся
Светаноснай Сафіі.

## На апошняй вярсце

Што расце на апошняй вярсце!
Сіні мох і палын, і быльнёг скрозь
счарнелы,
І з пасечаным голлем
Дуб забыты расце...
Безнадзейныя людзі
Тут крочаць нясмела...

Тут ляжаць заіржаўленыя караблі,
Старажытныя чоўны,
У якіх мы з бяды адплывалі.
Людзі горкага лёсу
Да вечнасці мёртвых граблі,
І змывалі ў прорву
Нас чорныя хвалі.

А спачатку жыцця —
Столькі светлых ідэй!
А цяпер не прысніцца
Старыя ўспаміны.
Ні жыцця, ні любові,
Ні добрых надзей...
Толькі Бог нам прашэпча:
«Спіце ціха і мірна...»

# Дзяржавы-равесніцы

## 28 кастрычніка — нацыянальнае свята Чэха-Славакіі

25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, лёс якой аказаўся трагічным. Таксама ў неспрыяльных варунках нараджалася дзяржаўнасць чэхаў і славакаў. Пасля першай сусветнай вайны на друзе Аўстра-Венгерскай імперыі 28 кастрычніка 1918 года Нацыянальным камітэтам у Празе было абвешчана ўтварэнне незалежнай Чэхаславацкай рэспублікі. 30 кастрычніка таго ж года да чэшскага камітэта далучыўся Нацыянальны савет Славакіі. Так закончылася стогадовая барацьба за самастойнасць. Чэхі і славакі, раз'яднаныя на працягу стагоддзяў, пачалі ўзводзіць гмах сумеснай дзяржавы.

Першым прэзідэнтам краіны стаў філосаф і сацыёлаг Томаш Масарык, у 1935 годзе прэзідэнтам быў абраны Эдуард Бенеш. Неабходна адзначыць, што як першы, так і другі дзяржаўны дзеяч спрыялі культурна-нацыянальнаму адраджэнню сваіх паняволеных суседзяў — украінцаў і беларусаў: на стыпендыі чэшскага ўрада ў Празе вучыліся нашы маладыя суайчыннікі з Латгале, заходне-беларускіх абшараў. Беларуская эміграцыя, у тым ліку і дзеячы БНР, атрымалі ў Празе не толькі палітычны прытулак, але і субсідыі на культурную, навуковую, выдавецкую дзейнасць. Аб гэтым сёння можна прачытаць у рамане «Роджаныя пад Сатурнам» дзвінскага настаўніка Віктара Вальтара (раман друкуецца ў газеце «Голас Радзімы»).

У 1925 годзе ў Чэха-Славакіі было створана Таварыства культурных і эканамічных сувязяў з СССР. У 1926 годзе Прагу наведалі з культурнай і палітычнай місіяй Янка Купала, Цішка Гартны, іншыя пісьменнікі з Менску...

28 кастрычніка — двайное свята. У 1968 годзе ў гэты дзень быў прыняты закон аб федэратыўным зладкаванні Чэха-Славакіі. Як з Чэхіяй, так і са Славакіяй за апошні час, нягледзячы і на неспрыяльныя «гусенічныя» ўмовы, наша Рэспубліка наладжвала эканамічныя і культурныя сувязі. Напрыклад, многія літаратары прайшлі вучобу ў Летніх школах славяназнаўства ў Празе і Браціславе, пераклалі і выдалі нямала кніг... Як можна паспрыяць у новым дэідэалагізаваным часе ўсталяванню сапраўды шчырых узаемавыгадных добрасуседскіх адносін, каб мацавалася нашае векавое пабрацімства, асветленае пасляпаўлаўскімі дзеямі, сумеснай перамогай на грундвальскім полі, асветніцкім подзвігам Ераніма Пражскага, Францішкі Скарыны? Беларускае Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі аднавіла дзейнасць, абнавіўшы раду сябрыны «Беларусь — Чэха-Славакія». У склад рады ўвайшлі пісьменнікі, мастакі, навукоўцы, выкладчыкі, прадстаўнікі бізнесу і розных галін вытворчасці. Рада сябрыны «Беларусь — Чэха-Славакія» запрашае ахвочых у панядзелак, 28 кастрычніка, а пятай гадзіне ў памяшканне Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (Менск, вул. Захарава, 28) — каб адзначыць нацыянальнае свята чэхаў і славакаў, выпрацаваць план работы на ніве міжнароднай супольнасці, акрэсленай на мапе Еўропы трыма сталіцамі: Браціслава — Менск — Прага.

Сяргей ПАНІЗНІК,
старшыня рады
сябрыны «Беларусь —
Чэха-Славакія».

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

**Гэты чалавек летась выступіў у апазіцыйным друку з «Запіскамі незалежніка», упершыню публічна прадставіўшы погляды той плыні сучаснага беларускага руху, якая свята даражыць гістарычнымі набыткамі дзеячаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады і стваральнікаў БНР. Гэтая, незалежніцкая плынь доўгі час развівала нашу палітычна-інтэлектуальную думку, знаходзячыся ва «ўнутранай эміграцыі». І вось нарэшце ідэі незалежнікаў пачалі ажыццяўляцца, паказваючы, хто меў гістарычную рацыю і хто з'яўляецца праўдзівым творцам існа-беларускай палітыкі.**

**«Я ва ўсім незалежнік», — скажа пра сябе пры нашай сустрэчы Анатоль Сідарэвіч. Здаецца, духоўна ён назаўсёды прылучыўся да «нашаніўскай пары». Гэты 43-гадовы гісторык, літаратурны крытык, публіцыст — адзін з ідэолагаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.**



# Анатоль СІДАРЭВІЧ:

# «КАБ СТАЦЬ НАЦЫЯЙ, НАЙПЕРШ ПАТРЭБНЫ ДУХОЎНЫЯ ВЫСІЛКІ»

**— Анатоль Міхайлавіч, інтэрв'ю вы давалі не так і багата, і тыя заўсёдна прысвечаны палітыцы. Хацелася б сёння пашырыць, «гуманізаваць» кантэкст. І натуральная першая цікавасць — аб вас асабіста. Калі ж вы сталі сацыял-дэмакратам?**

— Я, можна сказаць, сацыял-дэмакрат з таго часу, як пачуў крытыку меншавікоў. Мяне ўсё цікавіла, чаму гэта ў адной і той самай сацыял-дэмакратычнай партыі было дзве плыні, і чаму гэта адна з іх так топча другую. Мяне гэта зацікавіла.., а потым дазнаўся, што былі сацыял-дэмакраты і ў Беларусі. І якія сацыял-дэмакраты! — Луцкевічы, Смоліч, Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Лёсік! Яны для мяне ўзор, і магу вам сказаць па сакрэту, што яшчэ ў часе І з'езда БНФ вяліся прыватныя размовы аб адраджэнні беларускай сацыял-дэмакратыі.

**— Ці пагаджаецеся вы з параўнаннем гістарычнай долі (але не лёсу!) сучасных беларускіх адраджэнцаў з місіяй нашых «незалежнікаў» 1918 года, з той толькі розніцай, што зараз з'явілася перспектыва нечага дамагчыся?**

— Ведома ж, сучасных адраджэнцаў можна параўнаць з «незалежнікамі» 1918 года. Трэба толькі сказаць, калі кіравацца вонкавымі прыкметамі, — што і тыя і тыя з'яўляюцца адначасова і адраджэнцамі, і незалежнікамі. Але ёсць, канешне, і розніца. Што такое 1918 год? Гэта эпоха імперыялізму, які яшчэ быў моцны. З сакавіка 1918 года: Нямеччына і Расія дзеляць Беларусь. 12 ліпеня 1920 года: Расія і Летува дзеляць Беларусь. 18 сакавіка 1921 года: Расія і Польшча дзеляць Беларусь. Яшчэ ў 1914 годзе А. Луцкевіч пісаў, што Беларусь зможа нечага дамагчыся толькі ў супольнасці з дэмакратыямі іншых краін. Дэмакратыя ж тады была маладая, і беларусам **нельга** было нечага дамагчыся.

Возьмем хоць бы такі прыклад: 1919 год, А. Луцкевіч на Парыжскай мірнай канферэнцыі, там жа — прадстаўнікі Летувы, Латвіі, Эстоніі, Украінскай Народнай Рэспублікі. Ані Брытанія, ані Францыя, ані ЗША нават вухам не павялі ў іх бок, аддалі перавагу Калчаку, яго прызналі суверэнам. Памяняліся трохі абставіны — зрабілі стаўку на Пілсудскага, потым — прызналі і Леніна. Паглядзім жа, як у наш час прызнаваліся краіны Балтыі. Заходнія краіны вельмі доўга не хацелі гэтага рабіць. І мне адразу ўспамінаецца, што ЗША прызналі Летуву толькі ў 1922 годзе. калі Летувіскай Рэспубліцы было ўжо чатыры гады. Праз які ж час ЗША прызналі Летуву цяпер?

Такой маруднасці не трэба дзівіцца: заходнія краіны не хацелі і не хочуць псаваць адносіны з імперыяй, з цэнтрам, бо з **адным** партнёрам ім мець справу спакайней. Пра гэта сведчаць і нядаўнія публікацыі ў «Фігаро» і «Монд».

Але сёлета ў нас, у адрозненне ад 1918 года, ёсць адна перавага, хоць ты падзякуй Сталіну, — прадстаўніцтва ў ААН. Ніякія тэрытарыяльныя прэтэнзіі нашых суседзяў не могуць быць задаволены, што б там ні казалі Ельцын, польскія патрыёты, летувіскія звышпатрыёты і украінскія дзеячы на Берасцейшчыне. Беларусь — правадзейны сябар ААН, і ў кожным разе яна можа звярнуцца па дапамогу да міжнароднай супольнасці. Дарэчы, зараз перад намі паўстае задача ўвайсці ў еўрапейскую супольнасць, як гэта ні дзіўна гучыць, бо сябрам сусветнай супольнасці мы ўжо з'яўляемся.

**— Ці не будзе наша ўлучэнне ў еўрапейскую супольнасць толькі фармальным крокам, а не крокам праўдзіва незалежнай дзяржавы?**

— Трэба спадзявацца, што ў Еўропу мы вернемся, але вернемся пры ўмове дэмакратызацыі, перайтварэння нашай дзяржавы ў дэмакратычную, прававую, незалежную. Гэты працэс спакваля пасоўваецца. Днямі Вярхоўны Савет даў прынцыповую згоду на прыватную ўласнасць на зямлю: гэта ўжо дасягненне.

Але асабіста ў мяне ёсць наступныя закіды: па-першае, чаму Беларусь як еўрапейская дзяржава не была прадстаўлена на Канферэнцыі па чалавечым вымярэнні? Чаму Летува, Латвія, Эстонія — там, а Беларусь — не? Далей, — чаму Беларусь як сябар ААН дагэтуль самастойна не падпісала дакументы Еўрапейскай нарады па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе? Праўда, на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН П. Краўчанка заявіў, што на пачатку 1992 года Беларусь будзе стукацца ў Еўропу на нарадзе міністраў замежных спраў еўрапейскіх краін. Канады і ЗША. Але, тым не менш, мы невыбачальна марудзім.

Па-другое, кепскую паслугу рэспубліцы аказаў Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч у часе З'езда народных дэпутатаў Саюза. Калі народныя дэпутаты СССР А. Дабравольскі і С. Габрусеў настойвалі, каб у пастанове было запісана, што з'езд прызнае аб'яўлены суверэнітэт і незалежнасць рэспублік, Шушкевіч згадзіўся са зменай за ноч фармуліроўкай: «с уважением относится» да суверэнітэту. Цяпер задача нашых дэпутатаў-прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце Саюза — дабівацца, каб ён **прызнаў** наш суверэнітэт. Думаю, што разам з дэмакратычнымі дэпутатамі Украіны, іншых незалежных дзяржаў яны здолеюць гэтага дамагчыся, тым болей, што зараз і Расія зразумела, што трэба ісці па шляху незалежнасці — гэтаму паспрыяла адстаўка Сілаева і іншае.

Гарбачоў зараз спрабуе ўзяць рэванш — не трэба даваць яму такога шанцу: мы ведаем, хто такі Гарбачоў. І калі Еўропа яшчэ не вызвалілася ад «горбіманіі», дык мы ад яе даўно ўжо вызваліліся. Вядома, Еўропа баіцца ядзернай зброі, але мы і тут зможам паразумецца. Усю зброю, што знаходзіцца ў нас, можна знішчыць у рамках Дагавору аб стратэгічных узбраеннях і ў рамках будучага Дагавору аб тактычнай зброі.

БСДГ яшчэ ў заяве ад 11 мая выказалася супраць «цэнтра» з прэзідэнтам і кабінетам міністраў ды прапанавала мець Раду кіраўнікоў суверэнных дзяржаў і нараду кіраўнікоў урадаў. Апублікаваны нядаўна тэкст Дагавору аб эканамічным супольніцтве больш-менш адпавядае нашым уяўленням аб Садружнасці дзяржаў.

**— Тым не менш, ці не лічыце вы, што цяперашнія крокі афіцыйнай улады Беларусі найбольш наблізіліся да ідэалогіі незалежнікаў?**

— Ну, ведаеце, калі гэтыя ўлады не хочуць, паводле праектаў Жырыноўскага і расейска-шавіністычнага падполля на Беларусі (пад вывескай «Белая Россия», «Отечество» і іншых арганізацый), — калі гэтыя ўлады не хочуць быць уладамі беларускай губерні, дык яны **вымушаны** бараніць суверэнітэт Беларусі. І тут нашы інтарэсы — улады і незалежнікаў — супадаюць **аб'ектыўна**.

Але ёсць іншыя прадстаўнікі ўладаў — кіраўнікі прадпрыемстваў, былыя кампартфункцыянеры, якія добра схаўрусаваліся з інтэлігенцыяй, што не любіць беларускую мову, не хоча выкладаць па-беларуску. Я маю на ўвазе Сямёна Букчына як лідэра гэтай інтэлігенцыі. Прыкрываючыся размовамі аб дэмакратыі, ён і яго аднадумцы добра спеліся з некаторымі прадстаўнікамі камуністычнага й гаспадарчага інстэблішменту — з праціўнікамі нашага суверэнітэту.

Ведама, што з такімі дзеячамі ў нас будуць спрэчкі. Не выключаю, што і з нацыянал-камуністамі таксама.

**— Чаму?**

— Першыя хочуць, каб мы заставаліся эканамічным прыдаткам Расіі, яе культурнай калоніяй, другія — хацелі б бачыць Беларусь камуністычным запаведнікам.

Крайнасці сыходзяцца. Барацьбіт за дэмакратыю і роўнасць С. Букчын, які арыентуецца на «дэмакратычную» Расію, нібыта не бачыць, што вакол Ельцына сабраліся былыя апаратчыкі і ўжо маніпулююць ім. Ідэалізуючы Расію, ён зацямняе сутнасць справы і аб'ектыўна штурхае нас у абдымкі да непрадказальнага рэжыму. Мы хочам жыць уласным розумам. Наш ідэал — незалежная, прававая, дэмакратычная дзяржава з эканамічным, палітычным і культурным плюралізмам. Зрэшты, гэты ідэал не новы. Мы вяртаемся да таго, што закладзена беларускімі сацыялістамі ва Устаўных граматах БНР.

**— Бадай, ці не кожны «нацыяналіст» вывучаў праўдзівую гісторыю і паліталогію па-за межамі афіцыйных праграм універсітэтаў. Як жа вывучалі гэтыя навукі вы?**

— Нават у часы брэжнеўшчыны чалавек, які не ленаваўся, мог дастаць і прачытаць тое, што было забаронена. Было шмат шляхоў. Каб прачытаць, напрыклад, Салжаніцына ці Сахарава — адзін канал. Калі вам хацелася чытаць Ластоўскага, Луцкевіча, Цвікевіча, Смоліча, Ігнатоўскага — для гэтага існавалі каналы іншыя. Папершае, старая беларуская інтэлігенцыя, якая, скажам так, знаходзілася тут у «духоўнай эміграцыі». Ды й маладая інтэлігенцыя таксама. У нас былі і ёсць патрэбныя кнігі. І «з-пад крыса» можна было ўсё прачытаць.

Не забудзем, што непадалёк ад Менска Вільня, там таксама ёсць старая інтэлігенцыя. Многае можна было прачытаць у Віленскіх акадэмічнай і універсітэцкай бібліятэках. Не забудзьма, што сёе-тое можна было прачытаць нават і ў нашай дзяржаўнай рэспубліканскай бібліятэцы. Справа ў тым, што, надта змагаючыся з «нацыяналістамі», нашы ідэалагічныя цэрберы не ўцямілі, што гэтыя «нацыяналісты» многія ідэі ўзялі ў тых жа царскіх гісторыкаў — Галубоўскага, Сапунова, Данілевіча (узяць да прыкладу гісторыю Полацкай і Смаленскай земляў). Выяўляецца, што гэтыя буржуазна-дваранскія гісторыкі іншы раз былі большымі «нацыяналістамі», чым Ермаловіч. (У дужках зазначу: вось каб такі аб'ектыўны погляд на Беларусь ды Сямён Букчын выявіў!).

І, нарэшце, калі кнігі Ластоўскага, Ігнатоўскага, Смоліча былі забаронены ў БССР, іх можна было свабодна прачытаць у Маскве і Ленінградзе: там яны не патрапілі ў спісы забароненых і свабодна чыталіся, гэтаксама, дарэчы, як і падшыўкі беларускіх газет.

**— Дык жа і цяпер многае даводзіцца чытаць «з-пад крыса», вышукваць, трацінь час...**

— «З-пад крыса» то «з-пад крыса», але паглядзіце, колькі апошнім часам друкуюць гістарычных матэрыялаў і твораў беларускіх дзеячаў часопісы «Спадчына», «Крыніца», «Полымя», «Бярозка». «ЛіМ» таксама. Зроблена рэпрынтнае выданне А. Цвікевіча, выйшла брашура пра В. Іваноўскага, зараз выйдзе работа А. Луцкевіча, і многае яшчэ выйдзе. Але праблема мне бачыцца не ў наяўнасці крыніц, бо, калі чалавек хоча нешта даведацца, ён заўсёды знойдзе, як яму гэтую «веду» здабыць.

Справа ў тым, што, паўтараючы словы Пушкіна (а ён так і пра беларусаў сказаў), — «мы ленивы и нелюбопытны». Вось калі разжаваць і ў рот пакласці... У чым бяда: школа наша адвучвала людзей самастойна шукаць веды і звесткі, інфармацыю, адвучала ад акадэмічнай працавітасці. Сёння запытваюць нас, старэйшых, і пытаюцца: ці пішаце падручнік? А ў мяне сустрэчнае пытанне: а што ж вы, маладыя, робіце? Іх, нашых маладых патрыётаў, я мала бачу ў чытальнях і аўдыторыях. І самая страшная, прыкрая рэч — што яны не хочуць працаваць у школах; скончыўшы універсітэт, яны ўсімі праўдамі і няпраўдамі пазбягаюць школы. А мае вучні, нават у самыя застойныя часы ў школе (а я ёй аддаў каля 9 год), ведалі, што бел-чырвона-белы сцяг — гэта наш сцяг, а герб «Пагоня» — гэта наш герб...

**— Дарэчы, адзін з вашых апанентаў называе Анатоля Сідарэвіча «перакананым песімістам». Ці мае рацыю гэткая адзнака вашага стаўлення да «нашага руху»?**

— Мой «песымізм» у тым і заключаецца, што мала людзей-работнікаў. Многа «прастарэквання».

**— ?**

— Гэта людзі, якія любяць пагаварыць, і падчас гавораць слушныя рэчы. Але калі скажаш: сядзь, напішы, — на такую працу ім бракуе то часу, то нечага іншага. А ў народ трэба несці друкаванае слова. Зараз жа, здаецца, цэнзурныя перашкоды зняты, можна свабодна друкавацца, дзяліцца інтэлектуальнымі набыткамі, знаходкамі. Але працавітых, чынных людзей якраз і мала.

Мой «песымізм» звязаны таксама з працай Інстытута гісторыі, Інстытута філасофіі і права, Інстытута літаратуры. Іншы раз нават пытаюся, за што ім грошы плацяць. Кажуць, нібыта зараз гэтыя ўстановы пачалі працаваць у архівах, аднаўляць праўду. Але ж ужо 6 гадоў ідзе «праца»! І мне прыкра было, калі я, працуючы тыя гады ў віленскіх архівах (за свой кошт, была, па месяцу сядзеў замест таго, каб адпачываць ля мора), — і за цэлы месяц не бачыў там ніводнага беларускага навукоўца. Вось ад чаго мой «песымізм».

Вядома, рынкавыя адносіны ўскладняюць матэрыяльныя праблемы. Але: хто будзе працаваць настаўнікам ў вёсцы? Толькі што ездзіў на радзіму А. Смоліча ў Клічаўскі раён — жахлівая рэч: вісяць тыя ж старыя савецкія сцягі, дзеці ўсе як адзін ходзяць у піянерскіх гальштуках... Вёска — хто будзе ў ёй працаваць? Вось дзе той мацярык, тая Атлантыда, якую трэба падняць, асвеціць, бо вёска не адразу стане вёскай свабодных гаспадароў.

**— Вашыя артыкулы з аглядам і аналізам рэлігійных працэсаў на Беларусі добра вядомы сваёй вастрынёй, нават, даруйце, з'едлівасцю — у дачыненні, напрыклад, да дзейнасці польска-каталіцкага духавенства. Гэта — адкуль: ад даследчанасці аўтара ці асабістага атэізму?**

— Адказваючы на гэтае пытанне, я магу прадоўжыць тэму «песымізму», але перадусім мушу заявіць, што атэістам не з'яўляюся. Я — католік усходняга абраду, уніят. І бываю на багаслужбах. І тое, што я сацыял-дэмакрат, анітрохі не пярэчыць таму, што я католік. Сацыял-дэмакрат А. Смоліч пасля смерці М. Багдановіча пайшоў у царкву і паставіў свечку. Новы Запавет на беларускую мову таксама пераклаў сацыял-дэмакрат А. Луцкевіч разам з баптыстам Дзекуць-Малеем. Так што адно не пярэчыць другому.

Вы кажаце пра з'едлівасць у адносінах да рыма-каталіцкага клеру... У мяне аднолькавыя адносіны і да польска-каталіцкага духавенства, і да руска-праваслаўнай іерархіі, таму што на сённяшні дзень і рыма-каталіцкі, і праваслаўны клер з'яўляюцца ў нас праваднікамі інтарэсаў **чужых дзяржаў** — Польшчы і Расіі. Яны, па сутнасці, знаходзяцца па-за беларускаю культураю, па-за працэсам станаўлення беларускай дзяржаўнасці, што выклікае занепакоенасць і «песымізм». Тыя нешматлікія каталіцкія святары, якія адпраўляюць святую

**(Працяг на стар. 12).**

## КНІГАПІС




ПАДАРОЖНАЯ КНІЖКА СКАРЫНЫ. Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1990.

**У гэты зборнік, укладзены С. Панізнікам і В. Дышыневіч, увайшлі прадмовы, вершы Ф. Скарыны да кніг, выдадзеных ім, а таксама выказванні пра першадрукара і асветніка вучоных, творы, прысвечаныя яму. Даюцца асноўныя даты жыцця нашага знакамітага земляка.**

**Прадмову напісаў В. Чамярыцкі.**




АПАВЯДАННІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ. Зборнік. На кіргізскай мове. Фрунзе, «Адабіят», 1991.

**У зборнік, складзены А. Кудраўцом, увайшлі лепшыя апавяданні, напісаныя прадстаўнікамі розных творчых пакаленняў — В. Быкавым, У. Караткевічам, Ф. Янкоўскім, Я. Брылём, А. Васілевіч, І. Пташнікавым, Я. Скрыганам, В. Карамазавым, І. Шамякіным, В. Іпатавай, І. Навуменкам, В. Коўтун, М. Стральцовым, В. Адамчыкам, І. Чыгрынавым, А. Жуком, Х. Лялько, А. Кудраўцом, Я. Сіпаковым, Б. Сачанкам, Н. Маеўскай, В. Казько, В. Гігевічам, А. Дударавым, А. Масарэнкам, Г. Далідовічам, У. Паўлавым, Я. Радкевічам, У. Ягоўдзікам, У. Рубанавым, М. Лыньковым, У. Арловым.**




М. АРОЧКА. Памяць зярнятаў. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Змест кнігі склалі лепшыя вершы аўтара, а таксама драматычныя паэмы «Крэва» і «Курганне». Прадмову «Вымярэнні майго свету» напісаў сам М. Арочка.**




В. ГАЛАВАЧ. Арыядніна ніць. Аповесць. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**У вострадынамічным, з элементамі дэтэктыву, творы Віталя Галавача гаворка ідзе аб рабоце супрацоўнікаў міліцыі ў пасляваенныя гады. Старшы лейтэнант Кацярыніч выкрывае на млынзаводзе раскрадальнікаў народнага дабра.**

# А ШТО СКАЗАЎ БЫ КАРАТКЕВІЧ?

КАЛІ пачалася гэтак званая перабудова, аднойчы мы спыталі сябе: а што б рабіў цяпер Караткевіч, як бы ён паводзіў сябе ва ўмовах адкрытасці інфармацыі, публічнасці выступленняў, якое б месца заняў у дэмакратычным руху?

Версіі сваіх адказаў давалі і тыя, хто ведаў асабіста Караткевіча і мог спраектаваць магчымыя варыянты яго рэакцыі на палітычныя падзеі. Шукалі адказу і тыя, хто не быў знаёмы з пісьменнікам, але для каго ён з самай першай кніжкі стаў сімвалам бунтарскага духу і незалежнасці асобы.

Можа быць, не такое ўжо і важнае гэтае пытанне пра аднаго-адзінага чалавека, калі кожны дзень нараджае ўсё новыя і новыя імёны перамогшых рабства. Магчыма, здаецца яно некаму праявай экзальтацыі ці няўменнем бачыць лес за асобным дрэвам. Але справа тут не проста ў Караткевічу. Справа ў тым — **хто,** прадстаўнікі якога пакалення, якога сацыяльнага зрэзу шукалі гэты адказ. І трэба пазначыць адназначна — ніхто з нас не ўзгадаваў бы свой вольналюбівы дух без кніжак Караткевіча. Мы ўспрымалі яго не проста як таленавітага пісьменніка, не толькі як незалежную, творчую натуру — для многіх ён стаў каталізатарам нацыянальнай свядомасці. Вось чаму было важным змадэляваць адпаведнік ягоных паводзін у сітуацыі нацыянальнага абуджэння, якая і прывяла Беларусь да дэкларацыі аб незалежнасці. Гэта была своеасаблівая праверка на правільнасць дзеянняў, на справядлівасць ацэнак, на дакладнасць думак.

Адкрыццё музея ў Оршы, знаёмства там са сваякамі, жаданне адчуць ягоны дух у рабочым кабінеце, прагнае ўслухоўванне ва ўспаміны сяброў, нецярплівае чытанне кожнай новай, не друкаванай раней рэчы пісьменніка...

І вось тут з'явілася кніга Адама Мальдзіса «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча». З першых яе старонак, прачытаных спачатку ў часопісным варыянце, а пазней і ў асобным выданні, прыходзіць пачуццё задавальнення: гэта не белетрыстыка на тэмы жыцця і творчасці і не староннія выкладкі фактаў біяграфіі. Сам Мальдзіс вызначыў жанр свайго аповяду пра блізкага сябра як партрэт пісьменніка і чалавека. Ва ўступе ён перасцерагае чытача, што кніга, безумоўна, вельмі суб'ектыўная. «Я далёкі ад таго, каб прэтэндаваць на нейкія ісціны ў апошняй інстанцыі, бо абапіраючыся пераважна на тое, што асабіста бачыў і чуў, што было занатавана (прызнаюся ў гэтым) адразу ж, вечарам ці на наступны дзень, а то і непасрэдна ў час выступленняў Караткевіча ў самых розных аўдыторыях. Праўда, мушу пакаяцца: на пачатку нашага знаёмства, у гады шасцідзесятыя, яшчэ не ўсведамляючы ўсёй значнасці таго, што адбывалася на маіх вачах, усёй адказнасці перад гісторыяй, такія занатоўкі я рабіў рэдка і бегла».

І аўтар стрымлівае слова, ведаючы, што памяць можа зрабіць дрэнную паслугу, таму ўся кніга трымаецца на строгім грунце фіксаваных запісаў, лістоў, рэцэнзій, вынятак з дакументальных сведчанняў, агульных сяброў. Ён не дазваляе сабе нешта дадумваць, будаваць гіпотэзы, а сумленна і шчыра распавядае пра бачанае, чутае, прачытанае, перажытае. Ведаючы Мальдзіса па ранейшых кніжках як уедлівага ў фактуру даследчыка, няспешнага да высноваў вучонага і памяркоўнага ў ацэнках чалавека, верыш, што ўсё сказанае ім на старонках кнігі пра такую складаную асобу, як Караткевіч, — не дзеля прыхарошвання таго, пра каго гаворка (як гэта часта бывае), і не дзеля аўтарскага самалюбавання (што таксама здараецца нярэдка) —маўляў, вось з якім чалавекам я сябраваў. Хоць гэтае апошняе Мальдзісу зусім і не трэба. Жывучы побач з «клясыкам», ён не пакутаваў на хваробу, якая досыць распаўсюджана сярод літаратараў, таму і кніжка атрымалася шчырай і сумленнай.

Сёння, калі ўсё больш і больш змагароў за нацыянальную ідэю выходзіць з застойнага падполля, «гнанымі» называюць, бывае, сябе нават і тыя, хто тады быў сярод «паганятых». А. Мальдзіс прыводзіць на старонках кнігі шматлікія прыклады адмаўлення афіцыйнымі асобамі Караткевіча як пісьменніка, рэзкага цкавання ягоных твораў «ньюбэндаўцамі» ў друку, адкрытага здзеку чыноўнікаў над ягонай чалавечай асобай і — годных паводзін Уладзіміра Сымонавіча ў любой з гэтых сітуацый. Многія з прыведзеных эпізодаў і цэлых гісторый пра Караткевіча ўжо вядомыя з іншых крыніц, многія ходзяць у народзе, як паданні. Але шмат пра што чытаем упершыню.

Асабіста мяне ўразілі факты Караткевічавай рэакцыі на непрыманне беларускай мовы. Хоць А. Мальдзіс і падкрэслівае: «У стаўленні да мовы, як мне ўяўляецца, Караткевіч быў сапраўдным інтэрнацыяналістам. Ён часта, ахвотна і без акцэнту (у тым ліку і дома, з маці) гаварыў па-руску». Але далей, праз колькі абзацаў, Адам Восіпавіч апісвае эпізод спрэчкі з драматургам Анатолем Галіевым, які даказваў Караткевічу, што калі б той стаў пісаць па-руску, то меў бы і славу, і ганарары. «Караткевіч злаваўся, абвяргаючы апанента, чытаў вершы Багдановіча. Спрабаваў — Гаруна.

— Каму ўсё гэта трэба! — перапыняў яго Галіеў. — Можа, вось ім?—паказваў на майго сына і яго сваяка з вёскі.

А. Мальдзіс. Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча. Эсэ. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1990.

# «ЗАРГАНІЗАВАЦЬ УСЕ НАШЫ ІНТЭЛІГЕНТНЫЯ СІЛЫ...»

ПАД ЧАС аднаго з наведванняў Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі імя У. І. Леніна, праглядаючы ў аддзеле беларускай літаратуры каталог выданняў, якія зусім нядаўна яшчэ захоўваліся ў так званым «спецхране», міжволі запыніў позірк на картцы, на якой значылася: «Жук Паўлюк. Яго жыццё і творчасць. Выданне групы аграномаўБССР. Менск. 1925 г.». Імя мне нічога не гаварыла, але цікаўнасць змусіла заказаць гэтую кнігу.

Праз некалькі мінут (час быў ранні, да таго ж суботні, у аддзеле — лічаныя чытачы) трымаў кнігу ў руках. Зрэшты, нават не кніжку, а любоўна сабраны зборнічак у памяць аб чалавеку, які, безумоўна, вельмі шмат мог зрабіць для беларускага Адраджэння дваццатых гадоў, калі б не яго заўчасная і такая недарэчная смерць.

«Гэты сшытак, — гаворыцца ў прадмове, — змяшчае толькі частку выступленняў у друку **Паўлюка Жука,** студэнта Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі без пары памершага 2-га снежня 1924 году ад наскоку трамваю. Тут згуртавана тое, што, здавалася, паказвала шырэй яго багатую натуру. Але і гэта ўжо выразна сведчыць аб глыбокім захапленні і жаданні П. Жука працаваць на карысць працоўных Беларусі». Далей паведамляецца, што 7 снежня 1924 года аграномы, былыя студэнты Ціміразеўкі, сабраўшыся разам, вырашылі ўстанавіць стыпендыю імя П. Жука ў памеры 240 рублёў і выплачваць яе «аднаму з выдатнейшых студэнтаў-беларусаў Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі». У фонд яе меркавалася пералічыць і сродкі ад продажу гэтага зборніка.

Хто ж ён такі, П. Жук, што сябры вырашылі падобным чынам увекавечыць яго памяць? (Дарэчы, зборнік выйшаў у друкарні бабруйскай газеты «Камуніст» накладам адна тысяча адпаведнікаў).

З «кароткага жыццяпісу» даведваемся, што нарадзіўся П. Жук у лістападзе 1899 года ў вёсцы Падліпцы на Случчыне ў сям'і незаможнага селяніна. Вучыўся ў Слуцкай камерцыйнай школе. У 1920 годзе «праслухаў Слуцкія курсы беларусазнаўства», дзе пазнаёміўся з маладой беларускай літаратурай. У пачатку ж 1921 года П. Жук кіруецца ў Маскву. Спачатку вучыўся на рабфаку пры Ціміразеўскай акадэміі, а стаўшы студэнтам, на працягу чатырох гадоў «з'яўляўся адным з упартых і выдатных працаўнікоў сярод беларускага студэнцтва».

Жук, акрамя літаратуры, цікавіўся экалагічнымі магчымасцямі Беларусі. Сярод сяброў крылатым стаў яго выраз: «Балоты наша нацыянальнае багацце; наш лес — гэта золата балот беларускіх». Рэгулярна друкаваўся ў часопісах «Беларускі гаспадар», «Полымя», «Маладая Беларусь», газетах «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», а таксама ў выданнях Гомеля, Віцебска, Магілёва. Трапіў пад трамвай «у пяці мінутах ходу» ад акадэміі і «праз дзве гадзіны памёр у Бутырскай бальніцы». Пахавалі П. Жука на могілках ля Галовінскага манастыра поруч з сястрой Максіма Гарэцкага (яе гэткі ж лёс напаткаў, як вядома, у верасні 1922 года).

Біяграфія, як бачым, не надта адметная. У першыя паслярэвалюцыйныя гады нямала знаходзілася сялянскіх дзяцей, што рваліся ў вялікія гарады, шукаючы свае пуцявіны да ведаў. Ды ўсё ж П. Жук варты нашай памяці. асабліва сёння, калі мы зноў ідзём сцяжынамі Адраджэння, пратоpанымі яшчэ ў дваццатыя гады, ды, на жаль, зараслі з-за нашага нацыянальнага нігілізму і з-за празмерна «інтэрнацыянальнай палітыкі» партыі. Нездарма прысвяціў П. Жуку свой верш Уладзімір Дубоўка.

Належачы да людзей, якія разумелі, што ў час пабудовы новай Беларусі неабходна «зарганізаваць усе нашы інтэлігентныя сілы», П. Жук у гэтай важнай і няпростай справе вялікую ролю адводзіў нацыянальна свядомай моладзі. Прынамсі, такімі думкамі прасякнуты яго артыкул «Аб беларускім студэнцтве», што ў 1922 годзе быў апублікаваны на старонках газеты «Савецкая Беларусь». Адзначыўшы нябачаную раней цягу юнакоў і дзяўчат да ведаў (толькі з аднаго тагачаснага Слуцкага павета разам з ім у Ціміразеўцы вучылася дванаццаць чалавек), П. Жук гаварыў: «Цяпер наш святы абавязак перад адраджэннем Беларусі і яе прагрэсам зрабіць так, каб усе гэтыя жывыя, маладыя, поўныя сілы і энергіі творчыя сілы краю не зыходзілі на бок, не лезлі туды, дзе жывецца весялей і вальготней, чым у «спрадвеку заплаканым краю», а працавалі дома. На гэта павінна звярнуць асаблівую ўвагу наша Савецкая Беларусь, як Рэспубліка, паставіўшая сваёй мэтай адраджэнне беларускай культуры і яе гаспадарчасці; павінны гэтым зацікавіцца нашы грамадзянскія і дзяржаўныя ўстановы, асабліва Народны Камісарыят Асветы, Народны Камісарыят Земляробства».

Хіба гэта не задача дня сённяшняга? Хіба не сугучны далейшыя развагі П. Жука таму, што непакоіць нас і цяпер і перад вырашэннем чаго мы стаім: «Беларусі патрэбны абавязкова сыны свае краіны, узброеныя шырокімі

Нечакана на бок больш далёкага госця стала і мая нябожчыца маці: так, беларуская мова нейкая «некультурная». ...І тут Валодзя першы раз на маіх вачах заплакаў:

— Усе вы нават не ведаеце, якую страшную рэч кажаце».

Абарона сваёй мовы роспачнымі слязьмі, калі не хапае аргументаў. І веданне, і пашана мовы і нацыянальных пачуццяў сваіх суразмоўнікаў. Два бакі аднаго медаля, і ўзаемавыключэння, як спрабуюць даказваць некаторыя сённяшнія актывісты ТБМ, у гэтых рэчах не бывае. Інакш — аднабаковасць, а значыць — бесперспектыўнасць.

Цікавыя прыклады знаходзім і пра адносіны Караткевіча да спадчыны, асабліва да помнікаў старажытнага мастацтва. Ён успрымаў іх як частку нацыянальнай гісторыі, часта ездзіў у экспедыцыі, вандроўкі, ведаў не толькі з кніжак пра кожны храм ці палац, кожную знакамітую мясціну ці апетае ў паданнях возера альбо баладны дуб. І глядзеў ён на ўсё гэта далёка не так, як многія шчырыя і адданыя справе навукоўцы, музейшчыкі.

«...узнікла спрэчка, — сведчыць А. Мальдзіс. — Ці мелі права супрацоўнікі Дзяржаўнага музея БССР вырваць з памятнай таблiцы ў жупранскім касцёле Ашмянскага раёна партрэт Багушэвіча. Караткевіч горача даказваў, што не мелі, што гэта акт вандалізму. Тут жа дамовіліся, што напішам пратэст. Ліст такі (у Міністэрства культуры БССР) быў неўзабаве адпраўлены. Але партрэт не вернуты і да сёння (замест яго веруючыя ўстанавілі прыблізны заменнік)».

Вырванымі аказаліся, на жаль, шмат якія шклінкі з разнаколернага вітражу культурнай спадчыны народа. Натуральны гістарычны пейзаж ёсць аматары і сёння замяніць музейнымі экспазіцыямі. Такія ультрапатрыёты гатовыя не толькі партрэты, а нават і косці выдатных дзеячаў адраджэння вырваць з месца спачыну і выставіць у вітрынах, шчыра верачы ў тое, што такія акты паддадуць жару ў нацыянальны рух. Найчасцей у шэрагу такіх аказваюцца дзеячы, хто да дарагіх магіл не надта часты хадок, затое ахвочы збіраць усялякія подпісы пад заклікам разарыць святыя клады. А калі пабудзеш там, то міжволі ўспомніш, што сказаў Караткевіч у Ялце над магілаю Багдановіча (падкрэслена мной. **—В. А.**):

...Не сумуй, што далёка твой
край і зялёны і сіні,
Што пралётныя жоравы
граюць на весняй трубе:
**Я хацеў бы і скону, і смерці**
**ў далёкай чужыне,**
**Толькі б вочы юнацтва**
**любілі мяне, як цябе...**

(«На роднай магіле»).

Такія ж пачуцці апанавалі Караткевіча і ў апошнім жытле Максіма:

...Весняе неба не ведае,
плакаць надалей ці годзе.
Голлямі ўніз пацягнуўся
праз хмары сонечны куст,
У хатку, дзе згасла тваё
беднае дваццацігоддзе,
У хатку, дзе ўспыхнула
сонцам любові твая
Беларусь...

(«Домік Багдановіча»).

Мы па-ранейшаму захавалі пагляд на свае святыні, як на хатнюю маёмасць, якую можна вазіць туды-сюды за сабой. А між тым, ладзячы рэспубліканскі картэж у Ялту, не парупіліся нават указальнік да магілы зрабіць. Мы прыехалі туды праз месяц пасля юбілейнага эскорту і па-ранейшаму заспелі поўную адсутнасць інфармацыі пра нашага Паэта ў галовах ялцінскіх экскурсаводаў. Але гэта так, да слова...

А. Мальдзіс паказвае, як адпрэчваў Уладзімір Сымонавіч усялякія авантуры ў нацыянальнай палітыцы. «І калі ў прысутнасці Караткевіча заводзілі размовы, як бы «рыўком» змяніць усё тое, што сёння называецца застоем, Караткевіч злаваў, лічачы гэта правакацыйнай дэмагогіяй, што толькі шкодзіць справе...

— У маім доме пра палітыку, **такую** палітыку, не гавораць. Зарубі гэта, хлопча, на носе!

— Што ж рабіць? Цярпець?

— Дзела рабіць! Сілы збіраць! Розум назапашваць! Каб вытрываць.

І Валодзя трываў, дапамагаў сваім словам і прыкладам вытрываць іншым».

Разам з тым «свайго непрыняцця застою, сваёй нянавісці да яго носьбітаў не хаваў, выказваў з трыбун, у рэпліках з залы. І яму, зразумела, плацілі тым жа. Побач з Васілём Быкавым Уладзімір Караткевіч успрымаўся тады ў Беларусі як галоўная асоба ў супрацьстаянні кансерватыўным колам, як найбольш небяспечны «парушальнік спакою».

«Парушальнік спакою» рабіў справу, шмат спраў, будучы эпіцэнтрам канцэнтрацыі высокіх ідэалаў, свабоды руху. Абвяшчэнне незалежнасці, на жаль, не азначае аўтаматычнага ўсталявання гэтых ідэалаў. І мы ўдзячныя Адаму Мальдзісу за тое, што ён, узнаўляючы, уваскрашаючы для нас партрэт Уладзіміра Караткевіча, даў гэта зразумець.

**Валянціна АКСАК.**

---

пазнаннямі па ўсіх напрамках, ва ўсіх галінах навукі. Нашым дэвізам павінна быць высунутая жыццём і пацверджаная гісторыяй ісціна: «Пазнай самога сябе — пазнай свой край»?

Як умеў гэты юнак адчуваць перспектыву, наколькі ўрастаў ён ва ўсе нацыянальныя праблемы?! «Шмат багаццяў ёсць у нас; ніхто пра іх не ведае і не хоча ведаць. Трэба толькі ўмець і знаць, як скарыстаць гэтыя багацці, а ці страшна работа такому працавітаму народу, як беларускі; і мы зробім з забытае і забітае Беларусі эканамічна багатую і культурна развітую Данію, а з «пагарджанага век. сляпога, глухога», пакорнага ўсякаму начальству беларуса — добрага гаспадара, свядомага грамадзяніна».

Беларусь жыла ў душы гэтага хлапца. Не толькі тая, сучаснікам якой ён з'яўляўся і на адраджэнне якой часам, магчыма, глядзеў празмерна рамантычным позіркам, выдаючы жаданне за рэальнае. П. Жук задумваўся і аб дні наступным. Ён верыў, што ў Беларусі незалежнай, сапраўднай суверэннай дзяржаве яму жыць. Значыць, ужо цяпер трэба рабіць усё дзеля таго, каб паўсюдна гучала свая, родная мова, паспяхова развівалася нацыянальная культура, літаратура.

Клопатам аб нацыянальным адраджэнні прасякнуты і артыкул «Аб беларускай тэрміналогіі». Рашуча адстойваў аўтар права народа на сваё нацыянальнае жыццё: «Аб беларускай мове, як такой, не можа быць ніякай спрэчкі. Яна атрымала поўнае грамадзянскае раўнапраўе паміж усімі іншымі культурнымі мовамі... Праца па ўзбагачэнню мовы, збіранню народных слоў, сказаў ды зваротаў яшчэ непачата. Патрэба пэўна ўстаноўленай, зразумелай нашаму народу тэрміналогіі ўсім відавочна і не патрабуе тлумачэння. За падмогаю ў гэтай справе мы павінны звярнуцца да тварца мовы — к беларускаму народу. Толькі там, у тварца мовы павінны чэрпаць усе словы і ўсе тыя. хто піша свае творы, выдае газеты і кніжкі на беларускай мове».

Ужо тады, у 1922 годзе, П. Жук дбаў аб тым, пра што рупіліся вядомыя навукоўцы: «Ды пара... паставіць да парадку дня выданне беларускай энцыклапедыі».

У нататках «Аб беларускіх бібліятэках і кнігарнях» зноў жа канкрэтныя прапановы: «У кожным беларускім горадзе, у кожным мястэчку, у кожнай ваколіцы, пры кожнай хаце-чытальні трэба мець беларускую бібліятэку... Трэба таксама адчыніць, дзе ёсць магчымасць, беларускія кнігарні, або распачаць продаж беларускіх кніг пры існуючых кнігарнях. Грошай на стварэнне беларускіх бібліятэк шкадаваць не трэба, іх з процэнтам верне культурная і свядомая грамада».

У блакнотах П. Жука засталося нямала запісаў, якія, калі б не смерць, знайшлі б сваё ўвасабленне ў артыкулах, выступленнях. Тым не менш, яны таксама ўяўляюць цікавасць скандэнсаванасцю думкі, важнасцю ўзнятых пытанняў. Вось, напрыклад, развагі «Аб дзіцячых гульнях»: «...настаўніку варта заняцца вывучэннем мясцовых гульняў дзяцей, запісаць іх, адмеціць, што ў іх кепскага, што добрага, што развівае ў дзяцей лоўкасць, што карысна для арыфметыкі, што патрэбна для гімнастыкі памяці і г. д.» Ці, скажам, такая занатоўка: «Заданне — як найлепей і паўней скарыстаць агранамічныя сілы — будзе вырашана толькі тады, калі агранамічныя веды пацякуць у вёску не толькі шляхам прапаганды словам і справай, але і шляхам жывога пісанага слова — праз вясковую газету і сельскагаспадарчы часопіс, папулярную агранамічную літаратуру».

У тых самых блакнотах — перапісаныя ад рукі любімыя вершы Я. Купалы, М. Багдановіча, Ц. Гартнага... «Штотыднёвік П. Жука» захаваў і выказванні знакамітых людзей, што імпанавалі Паўлюку. Сярод выпісак — і сведчанне І. Зографа: «Я чую сябе адплатчыкам доўгу перад краінай, якая бачыла дзве культурныя народнасці — польскую і расейскую і аб даследаванні якой не паклапаціліся ні польскія, ні рускія прадстаўнікі навукі».

Такім быў П. Жук. Такім паўстае ён са старонак зборніка, што так доўга праляжаў у сховішчах, далёкіх ад вока дапытлівага чытача. Шкада! Кніжачка была б карысная сённяшнім юнакам і дзяўчатам — старшакласнікам, навучэнцам, студэнтам. Цяперашняе абуджэнне нацыянальнай свядомасці, зноў нагадаю, — працяг пуцявінаў, пракладзеных П. Жуком і яго аднадумцамі. Каб жа ў іх, наступнікаў, лёс быў іншы! Каб жа мы зноў не спыніліся на паўдарозе!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

**НАШ КАЛЯНДАР**

# Напісанае засталося...



У гэтыя восеньскія, кастрычніцкія дні знакамітаму нашаму празаіку і вядомаму мовазнаўцу, заслужанаму работніку культуры Беларусі Міколу Лобану магло б споўніцца 80 гадоў. Магло б, ды ўжо колькі гадоў няма Міколы Паўлавіча з намі. Паменела ў літаратурным асяроддзі дабрыні і шчодрасці, а сам ён не дачакаўся таго дня, калі справа, за якую рупіўся, нарэшце, зрушылася з месца. Беларуская мова стала мовай дзяржаўнай, яе пачынаюць вывучаць многія жыхары Рэспублікі Беларусь. І тут ім на дапамогу прыходзіць «Арфаграфічны слоўнік», што быў складзены М. Лобанам разам з М. Суднікам (вытрымаў шмат выданняў). Ёсць яшчэ ў набытках нашага мовазнаўства «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (1959) — плён і ягонай працы. Ёсць і іншыя выданні, у тым ліку і «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» ў пяці тамах, падрыхтоўкай якога непасрэдна кіраваў Мікола Паўлавіч, рэдагаваў першы том.

Аднак перадусім М. Лобан быў празаікам. Хаця — чаму быў? Ён ім і застаўся. У гэтым пераконваешся, калі перачытваеш трылогію «Шэметы». Тры раманы — «На парозе будучыні», «Гарадок Устронь» і «Шэметы» — гэта шырокая панарама жыцця беларускага народа на працягу не аднаго дзесяцігоддзя. Праз лёс галоўных герояў Шэметаў пісьменнік праўдзіва паказаў, як складана і супярэчліва ўсталёўвалася новае жыццё на роднай яму Случчыне.

А тое, што ў друк часам пайшло не тое, што напачатку ён пісаў, а прыгладжанае, падглянцаванае, каб адпавядала ідэалагічным установкам часу (асабліва гэта тычыцца заключнага твора трылогіі), не віна аўтара. Няма ў гэтым віны і супрацоўнікаў часопіса «Полымя», якія рыхтавалі раманы да друку. Яны таксама павінны былі ісці на пэўныя кампрамісы, каб хаця б там, «наверсе», дазволілі раман надрукаваць. Адміністратары ж ад літаратуры невыпадкова праяўлялі звышпільнасць. М. Лобан, як сумленны творца і чалавек, паказваў у сваіх творах жыццё такім, якім яго бачыў. Не баяўся гаварыць усю (прынамсі, яму вядомую) праўду і пра калектывізацыю, і пра гады вайны.

Напісанае Майстрам —засталося. Цяпер ужо задача даследчыкаў нашай літаратуры парупіцца аб тым, каб праз пэўны час чытачы змаглі пазнаёміцца з аўтарскім варыянтам трылогіі.

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# «Беларуская эміграцыя»

Барыс САЧАНКА

БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ



Многія чытачы, бадай, знаёмы са зместам чарговай кніжкі бібліятэчкі, што выпускае рэдакцыя газеты «Голас Радзімы». Кніжка гэтая — даследаванне Барыса Сачанкі «Беларуская эміграцыя». Пад назвай «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні» яно некалькі гадоў назад друкавалася ў часопісе «Маладосць», пасля ўвайшло ў яго кнігу «Сняцца сны аб Беларусі...» Але гэта — чытачы, што жывуць у Беларусі. Цяпер жа ці не ўвесь тыраж адпраўляецца за межы дзяржавы. Кніжка ж з бібліятэчкі «Голасу Радзімы» адрасуецца нашым замежным суайчыннікам. Выдана яна дзеля таго, каб і самі эмігранты змаглі даведацца, як ацэньваецца і ўспрымаецца іх творчасць на Радзіме.

Тое ж, што яны возьмуць інфармацыю, так сказаць, з першых рук, — немалаважна. Справа ў тым (пра гэта гаворыць і сам Б. Сачанка) некаторыя з суайчыннікаў тэндэнцыйна паставіліся да публікацыі. Асабліва пастараўся на старонках газеты «Беларусь» (1989, № 355) Янка Запруднік: «Нічога новага, тыя самыя, што і ў радыёперадачах, папрокі і галаслоўныя абвінавачванні, зусім беспадстаўныя намёкі... Ніякага плюралізму думак і поглядаў ён не дапускае, хоча, каб усе на ўсё глядзелі толькі яго вачыма, думалі так, як думае ён, словам, яго погляд — гэта ісціна ў апошняй інстанцыі, яна канчатковая, неабвержная».

Папрокі Я. Запрудніка наўрад ці маюць падставу. Б. Сачанка, пішучы пра нашу эміграцыю, імкнецца заставацца як мага больш аб'ектыўным. Ён, зразумела, асноўную ўвагу скіроўвае на мастацкую вартасць тых ці іншых твораў, але гаворыць і пра тое, што рабілі пэўныя аўтары ў гады вайны, не спрабуе схавацца за развагамі тыпу — «працаваў на нацыянальную культуру», калі было звычайнае супрацоўніцтва з немцамі...

Даследаванне «Беларуская эміграцыя» на сённяшні дзень — свайго роду энцыклапедычны даведнік. Упершыню сабраны пад адной вокладкай звесткі больш як пра 50 пісьменнікаў, перакладчыкаў, крытыкаў, кампазітараў, мастакоў, вучоных...

**Іншая справа, што ў адных выпадках гэта разгорнутыя нарысы-эсэ (напрыклад, пра В. Адважнага, М. Забэйду-Суміцкага, Л. Геніюш, У. Жылку), ці штрыхі да творчых партрэтаў Н. Арсенневай, М. Сяднёва, А. Салаўя, У. Клішэвіча. У іншых выпадках аўтар абмяжоўваецца канстатацыяй толькі асноўных біяграфічных звестак. Скажам, у раздзеле «Мастакі», дзе дае гэтаму і тлумачэнне: «На жаль, іх творы, і то не ўсе, мне давялося бачыць толькі ў рэпрадукцыях. А як рэпрадукцыя адрозніваецца ад самой карціны — ведае кожны. Тым не менш нават у рэпрадукцыях адчуваецца ў некаторых прафесіяналізм, уменне перадаваць настрой, а галоўнае — у іх ёсць душа, адухоўленасць».**

Думаецца, што кніжка Б. Сачанкі дапаможа ўдакладніць асобныя моманты з біяграфій аўтараў нашага замежжа, ліквідаваць іншыя прабелы, паслужыць умацаванню сувязей з суайчыннікамі, што па тых ці іншых прычынах аказаліся за межамі Бацькаўшчыны.

**С. ВІРЗОЎСКІ.**

**Масей СЯДНЁЎ**



# Жалейка

Я зноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць светлых, звонкіх думак-слоў,
Ці гладка пойдзе песня-дабрадзейка?
Янка КУПАЛА.

Спрабую зноў крануць маю жалейку
пасля няплодных стольскіх год...
У час выгнанніцкі яна была мне лекам
і вызначала думак маіх ход.

Я з ёй ішоў сібірскімі шляхамі,
тулію за пазухай ад сцюж на Калыме.
Дзяліўся з ёю згадкамі і снамі
і з ёю было цёпла мне.

І нат, калі да скону было мала,
калі здавалася, што не сцярплю пакут,
што не загінуў я, ты думы высылала
у родны мой, бацькоўскі кут.

Прайшлі гады... Не знаю, як ішлі вы.
Ды толькі доўга, у чужой мне старане,
не дакранаўся струн тваіх чуллівых —
і ты пакінула мяне.

...Баюся зноў крануць сваю жалейку,
як быццам перад ёй у нечым вінават.
У сполаху й трывозе нейкай
настройваю душу я на ранейшы лад.

●

То ўскрэсне, то запаліцца, то згасне,
то займжыцца...
Гляджу цяпер назад і бачу ясна —
не ўмеў я жыць.

Ад часу, калі пугай яшчэ ляскаў
і ў полі рос,
глядзеў я з незямною ласкай
у глыбіню нябёс.

І там тануў мой зрок і сам я.
І я, і статак — як плылі.
Здавалася — нябёсы ёсць таксама
і на зямлі.

Ды на зямлі было усё зямное
і не было нябёс.
Сцярог мяне, стаяў за мною
зямны мой лёс.

Ён так падбаў і ўсё так з'іспіў,
зямны мой лёс,
што і пабачыць, як калісьці,
я не магу нябёс.

●

Баюся тых дарог,
што я прайшоў аднойчы:
яны з напрамкаў трох —
ад сцюж, ад зор, ад ночы.

Пад'юджвалі ісці
паіць вадой гнаявай.
Я ж не прыпомню, ці
было хоць што наяве.

І славячы камлі
хваін і пух гусіны,
ішоў я па зямлі,
нібы у небе сінім.

І цвіў на градах мак,
і піў ваду я з лосем,
аж покуль цела ўсмак
мурою не напілося.

Таго ўсяго няма —
лёс нахлусіў паганы...
Кудысь у глухамань
качу зямлю нагамі.

# Усцешаныя геніі

Бамбілі ноч усю Берлін.
Ад дыму душна было ў скверы.
Мы згінулі б, напэўна, як адзін,
каб у збаўленне не было ў нас веры.

Багі нас берaглі, калі,
не дачакаўшыся адбою,
мы выпаўзалі з-пад зямлі,
каб не памерці пад зямлёю.

А там, праз вуліцу, дамы
рассыпаліся грудай цэглы.
Якая праўда! Радваліся мы,
што не мы палеглі.

...Ды раніцай зноў сонца і цяпло.
Лічылі мы, каго не стала.
І толькі геніі, схіляючы чало,
нам кланяліся з п'едэсталаў.

●

Прыглядаюся, каб не разбіцца,
вобмацкам хаджу я, спакваля:
некуды уніз, не па арбіце,
падае з-пад ног маіх зямля.

Страшна і не можна пагадзіцца —
на заходзе, як настане цішыня,
у крывавай, вогненнай мядніцы
плавіць Бог увесь здабытак дня.

На зямлі не людзі — чалавекі —
тупаем і б'ёмся век-вяком:
тонкім, нібы шкло, навекі
неба нас накрыла каўпаком.

*Барыс Пятровіч*



# Мроі

*Два апавяданні*

## РАЗВІТАННЕ

Сёння быў звычайны дзень: сонца, як заўсёды, падала на зямлю жоўтым цяплом; дрэвы старанна, нібы ўлагоджваючы вецер, шапацелі лісцём; людзі бязмэтна і бяздумна — так здавалася ад спякоты — блукалі, па вялікім, няўтульным горадзе.

Увечары я ад'язджаў адсюль. Да адыходу цягніка заставалася некалькі гадзін. І я разгублена хадзіў па горадзе, натыкаючыся на знаёмыя мясціны. Я развітваўся з горадам. Калі паветра пачало насычацца сінечаю, я пайшоў на вакзал.

У вагоне, ад раптоўнай моцнай стомы і самоты, я залез на верхнюю паліцу і заснуў...

Прыехалі мы надзіва хутка. Калі я прачнуўся, белая пляма акна кідала такое ж белае святло на твары пасажыраў. За акном насустрач цягніку беглі дамы чужога горада. Потым яны спыніліся. У тамбуры праваднiца пахіснулася і глуха ўдарылася аб сцяну вагона. На момант яна сцялася, нібы пастарэла ад болю, а затым з лёгкім рыпеннем, якое халадзіла цела, адчыніла дзверы. Я сышоў на заліты дажджом да лужынаў перон.

Мяне, вядома, ніхто не сустрэў. Родны дом быў яшчэ далёка, недзе там, у лёгкім тумане памяці. Такім лёгкім, што ад першага подыху ветрыку — іншага ўспаміну — ён мог растаць, знікнуць... Дадому трэба было яшчэ вельмі доўга — цэлыя тры гадзіны — ехаць. Ехаць у абшарпаным, чырвоным «дызелі», які адным сваім знешнім выглядам выклікаў непрыемныя, нат агідныя пачуцці.

Я пайшоў па білет. У вялікім, амаль пустым, памяшканні прыгарадных касаў, падкрэсліваючы яго ўбоства, цьмяна блішчэла лямпачка. Адзінокія пасажыры маркоцілі каля сценаў. Білетныя аўтаматы блішчэлі зялёнымі вачыма лямпачак і выдавалі больш жывымі. Вакенцы касаў побач з імі сумавалі па вялікіх чэргах.

Праз хвіліну, з білетам у руках, я накіраваўся да выхаду. І тут убачыў адзінага чалавека, які яшчэ варушыўся ў гэтай зале. Гэта была бабулька, згорбленая да таго, што плечы, здавалася, уздымаліся вышэй за галаву. Яна абыходзіла пасажыраў і нешта гаварыла ім бяззубым шэптам. Часам адтуль, дзе яна спынялася, чуўся звон манет. «Падайце, Бога радзі!..» — пачуў я зусім побач. Пачуў і заспяшаўся да выхаду ад нейкага незразумелага жадання сысці адсюль як далей. Толькі, не — зразумелага: у мяне раптам хвілінна праплыло перад вачыма, нібы ўрывак нямога фільма, тое, як бабулька падышла да мяне, паўтарыла свае словы, і я, сарамліва і збянтэжана, нервова і спешна, стаў шукаць у кішэнях, а потым даваць ёй капейкі. Пачуццё чакання, якое чыталася б тады ва ўсёй постаці бабулькі, мне падалося невыносным. Яно абражала б мяне...

І толькі на вуліцы я ачуўся. Халаднаваты вечар прасвятліў галаву.

«Які ж я дурань!»— балюча падумалася.

Я вярнуўся ў залу і стаў на самым бачным месцы. Проста нада мной вісела ўзніз галавою лямпачка — цьмяная, заседжаная мухамі да матавасці. Правай рукой я сціскаў у кішэні напагатове жменю манетак. Жаданне, каб бабулька нарэшце падышла да мяне, паступова ператварылася ва ўмольнае падрыгванне. Але бабулька, падмятаючы падлогу крысом старога, дзіравага, месцамі працёртага да змены колеру халата, ужо колькі разоў прайшла міма. Кеды яе бязгучна прылiпалі да слізкіх плітаў, халат прыкрываў ногі, і, здавалася, бабулька ціха плавала вакол мяне ў нейкім танцы. Вочы бабулькі, незвычайна пільныя і рухавыя, не спыняліся толькі на мне. Калі яна зноў прайшла-праплыла паўз мяне, занятая сваёй справай — я не вытрымаў, падышоў да яе.

— Дзень добры,— сказаў я і пачырванеў ад недарэчнасці сказанага.

Але бабулька не заўважыла гэтага. Яна збянтэжылася яшчэ больш за мяне. Ёй, пэўна, даўно так ніхто не гаварыў, і яна не ведала, што адказаць.

— Я хачу даць вам грошай,— аднымі непаслухмянымі губамі прамовіў я.

Бабулька яшчэ больш разгубілася. І я прачытаў у яе вачах жаданне пайсці прэч. Я і сам ледзь не адышоў, але, відаць, менавіта гэты позірк і ўтрымаў мяне зараз. Я хуценька выцягнуў руку з кішэні і высыпаў грошы ў механічна працягнутыя бабулькай маленькія, дрыготкія далоні.

Бабулька раптам ажыла, загаварыла тое, што я ўжо чуў пасля «Падайце, Бога радзі!..», а потым пра кагосьці, можа, пра сябе, няшчасную, хворую, потым яшчэ нешта... Мне стала проста і лёгка. Я прыслухаўся.

— ...Раніцай падышла да такіх вось, як ты, маладых, папрасіла капеечку, дык яны засмяяліся, сказалі пачакаць, а потым адвярнуліся, і я бачыла, як у іх руках блішчэла нешта, а потым павярнуліся да мяне і кінулі ў руку капеечку — гарачую, пякучую, як вугельчык, я ажно ўскрыкнула—так забалела, а яны зноў засмяяліся... і зараз, глядзі, вось...

Бабулька спачатку сухенькай ручкай выцерла нябачныя слёзы, а потым разняла кулачок і паказала далонь. Пасярод яе — нібы маленькае ружовае сонейка — быў апёк. Ён растапіў зморшчынкі і скура ў тым месцы стала далікатнай і адчувальнай, як у дзіцяці.

Мне захацелася доўга-доўга гаварыць з бабулькай.

— Я проста думаў, што вам трэба далёка ехаць, а грошы прапалі. І вы зараз збіраеце на білет. Таму і падышоў...— стаў тлумачыць я.

— Не, я тут жыву, блізка зусім, — бабулька сказала гэта і замоўкла. Аднак, зразумеўшы, што такога адказу мала, дадала: — Пенсію я не атрымліваю — не зарабіла. На работу цяпер вось не бяруць — старая. А жыць неяк трэба... Хоць і абрыдла, ой як абрыдла...

Толькі цяпер я заўважыў, што мы ўжо сядзім на нейкай лаўцы, выгнутай з фанеры. Сядзім у самым карычневым ад святла і цемры куце залы.

— Як гэта вы пенсію не зарабілі? — спытаў я. І гэтае маё «вы» неяк не вязалася да размовы, прасілася «ты»...

— Ой, доўга, унучак, доўга расказваць... Ой доўга... Усё вайна праклятая нарабіла. Маладая я тады была. І дурная-дурненькая: палюбіла паліцая. У першы раз ён мяне сілай узяў — прыгожая я была. Узяў ён мяне, і пакахала я яго. Ну, можа, й не пакахала, але — жыла з ім. Перад самым вызваленнем партызаны яго забілі. А мяне, як толькі нашыя прыйшлі, у турму забралі. Доўга я там была. Далёка, ажно ў Сібіры. Потым дамоў вярнулася. Стала ў калгасе кароў даіць. Аднойчы ішла дамоў з фермы позна ўвечары, і накінуліся на мяне сваякі забітага маім Сашкам хлопца і так збілі мяне, што ледзь я дахаты дапаўзла, крывёю харкаючы... Калі трохі агойдалася, яны зноў мяне падлавілі і да паўсмерці збілі. А на трэці раз я выхапіла кол з рук у таго, хто біў,— дужая ж была — і на яго... А ён назаўтра ў бальніцу. І пабоі зняў... Мяне зноў у турму, і зноў далёка, і зноў надоўга... У вёску я больш не вярнулася. Ды і каму я там трэба, старая. Радні няма, маці памерла. Так і жыву тут адна...

Пакуль бабка гаварыла, я паспеў разгледзець яе. Усю. Ад сівых валасоў, якія тонкімі ніточкамі ляжалі на галаве, рэдкіх, такіх, што відзён быў кожны валасок асобна, ад глыбокіх стомленых вачэй з чырвонымі ад слёз куточкамі — да белай палоскі сухой скуры, якая віднелася на правай назе паміж кедам і штанамі. Яе апратку — кеды, спартыўныя штаны і халат прыбіральшчыцы — дапаўняла яшчэ вылінялая, невызначнага колеру хустка.

— А вам не холадна так хадзіць?

— Не, дзе там, я раней нават босая хадзіла да самай зімы, як некалі ў вёсцы. Але міліцыянеры чапляліся часта. Тады і абулася,— бабулька тэпнула нагой па падлозе, каб я звярнуў увагу на яе кеды.

— Пойдзем, пакажу, дзе я жыву. Тут блізка,— прапанавала раптам яна.

Прапанова была настолькі нечаканаю, што я згадзіўся. На вуліцы вечар абхапіў мае плечы сваімі халоднымі рукамі. Я адчуў, як яго доўгія, сцюдзёныя пальцы залазяць за каўнер. Стала холадна, і я задрыжаў.

— Не бойся, унучак, не бойся,— сказала бабулька, і мне пацяплела.

Ісці і сапраўды было недалёка. За адным з бліжэйшых дзевяціпавярховікаў паказаліся асветленыя вокны вёскі. Мы падышлі яшчэ трохі і спыніліся. Цяпер вёска ляжала ля нашых ног і мы разглядалі яе з вышыні, нібы з нейкай гары, і яна мне падалася маленькай, цацачнай.

— Вунь там мая хата,— паказала наперад бабка.

А я і так ужо ведаў, дзе яна жыве. Я ведаў, што яна пакажа на хату, крытую чырвонай дахоўкай, падобную да хаты, у якой прайшло маё дзяцінства. Я глядзеў на вёску, і мяне ахоплівала пачуццё знаёмасці, блізкасці ўсяго. І я заўсміхаўся...

— Пойдзем туды, — сказала бабулька.

Мы кулём пакаціліся з гары ўніз — да вёскі. У самым нізе я балюча ўдарыўся аб востры камень, закрычаў ад болю і... прачнуўся...

Грудзі мае былі ў крыві. Прыгожы швэдар быў спаганены круглай чырвонай плямай. Унізе, на лаўцы насупраць, я ўбачыў трох мужчынаў. Двое трымалі трэцяга, які сядзеў пасярод, за рукі. На стале ляжаў акрываўлены, быццам іржавы нож. У мяне зноў забалелі грудзі... Трохі ўбаку, на лаўцы пад маёй паліцай, сядзеў яшчэ адзін мужчына. Скрозь яго пальцы сачылася ярка-чырвоная сукравіца.

— Ага, прачнуўся, нарэшце... А цябе тут забіць хацелі...— пачаў казаць адзін з мужчын.

Другі спешна дадаў:

— Твае смяшкі ў сне не спадаба-

Грэшныя ў непаслухмянстве душы,
не хацелі б мы зямлёю тлець:
падаем, рукамі ўзмахнуўшы,
каб усё-ткі ў неба ўзляцець.

## Акіян

Аб табе я меў думку не тую,
калі сніў пра цябе здаля.
Дзень і ноч ты ад злосці лютуеш,
праклінаеш сябе, што ты не зямля.

І ўсё пляжыць цябе адчай зняверы,
зелянееш ад роспачы ты.
Хвалі дыбяцца і, як пантэры,
з пенай кідаюцца на барты.

Пасланца зямлі — карабель — не раструшчыш
і на дне прыспаць не змагчы.
Паднімаешся к небу — зялёны грузчык —
аднаму табе страшна сярод начы.

Ты жывеш, як і мы, падманам:
так прывабна усё, што не ўзяць рукой.
Бунтавацца не хочаш ты акіянам,
мы ж не хочам кружыцца — зямлёй.

## Надзея

Захоплены, я кожны дзень
сябе радкамі выкладаю.
Хачу уваскрасіць, што ў самаце
мяне трывожыла гадамі.

Сяджу, гібею, каб радком
натхненне пераліць у форму.
Калісьці, можа, радаком
ён цеплынёй душу агорне.

І, можа, ўведаюць яны,
чым жыў паэта іх нязнаны,
пра ўзнёсласць дум, пра сны,
пра ўсе яго заганы.

Ды толькі ён хацеў ва ўсім
быць колькі можна дасканалым.
Няпоспех у жыцці сваім
прымаў з вялікім жалем.

Хвалююся, сумую і пішу,
натхненне пераводжу ў форму.
А мо калісь чыюсь душу
кране мой верш нерукатворны.

## Снегапад

Развітаўся з табой назаўсёды як быццам я — горда і смела.
У завулках завеямі злосна круціла зіма.
Да цябе не ішоў, хоць і сэрца хацела —
я чакаў, покуль ты не паклічаш сама.

Цэлы тыдзень у хату маю ветры лютыя білі.
Кожны дзень я ішоў да цябе і вяртаўся назад.
Але раптам спакой лёг на цэлыя мілі,
і уночы пачаўся лагодны, як пух, снегапад.

Раніцою было невымоўна ўсё бела.
Як размочаны цукар, сінявата-халодная гасла імгла.
Чысціні дакрануцца нага нічыя не пасмела,
толькі сцежка адна да парогу твайго пралягла.

## Лампадка

Гарыць лампадка тут і дзень і ноч,
і кожны раз я, пасля працы,
завітваю сюды, апроч
калі сюды я не магу дабрацца.

Такая ціхасць тут і лагада
у гэтай чуйнай і малой каплічцы!
Хачу тут вечнасці паклон аддаць
і суму на часінку хоць пазбыцца.

Успомніць тых, якіх ужо няма,
пра самых блізкіх, пра сябе самога.
Слязіну пусціш ціхама
без крыўды на нікога.

Глядзіш лампадка свеціць як —
дрыготка, таямніча,
бы нейкі хоча выдаць табе знак,
шапоча табе нешта, кліча.

І ты стаіш, і свеціцца яна,
як краска жоўтая у ліпні.
Баішся толькі, што яна —
адзін мамэнт і — можа хліпнуць.

## Распяты Хрыстос

Трывогай адазвалася сягоння:
як можа чалавек вякамі
глядзець на распасцёртыя далоні,
прабітыя наскрозь цвікамі!

Праходзіць міма з лёгкім сэрцам!
А Ён, як быццам нейкі найміт,
распяты на крыжы, праз цэлыя сталецці
усё крывавіцца прад намі.

Зірнеце толькі на пакуты
і на цярпенні ў твары Божым:
цвікамі да крыжа прыкуты,
ні рук, ні ног Ён вызваліць не можа.

Як самы вінаваты з вінаватых,
пакут не можа збыцца Ён нязмерных,
Ён, што лячыў сляпых і дзіўнаватых,
Ён, што ўскрос із мертвых.

...Прыйшоў я да Цябе сягоння
не дакранацца ран Тваіх рукамі,
а ціха цалаваць Твае далоні,
прабітыя наскрозь цвікамі.

ліся вось яму, — і ён паказаў на таго, каго трымалі.— А вось гэты ідыёт — руку падставіў, каб цябе ўратаваць. Яшчэ б імгненне — і не прачнуўся б ты больш ніколі... Ну, уставай, сведкам будзеш. Зараз міліцыя прыйдзе.

— Якім сведкам?.. Я дадому еду!.. Я ўжо прыехаў!..— закрычаў я.—Мне ісці трэба!— і кінуўся да выхаду. Мяне паспрабавалі схапіць, але я вырваўся, яшчэ раз тузануўся і ледзь не зваліўся з паліцы — ачуўся.

За акном была густая цемра. Ні агеньчыка, ні зоркі. Быццам нехта проста заклеіў акно чорнай фотапаперай. Цягнік стаяў. Стаяў, пэўна, ужо даўно і яшчэ доўга збіраўся стаяць. У вагоне не чуваць было ўжо ні гаманы пасажыраў, якія збіраліся выходзіць, ні тых, што зайшлі.

— Дзе мы стаім?— спытаў я ў пасажыра, які ўважліва пaглядаў на мяне.

— Гомель...— схамянуўся той.

Я саслізнуў з паліцы. Усунуў ногі ў халодныя чаравікі, узяў саквояж, накіраваўся да выхаду. Пачаргова апускаючыся з прыступкі на прыступку, я сышоў на заліты дажджом да лужынаў перон...

1983 г.

## Я БЫЎ...

Я не памятаю, калі ўпершыню ўбачыў гэтае паселішча. Больш дакладна — тое, што засталося ад яго, што пакінулі пасля сябе ворагі: абпаленыя камяні на папялішчах, абгарэлыя бёрны зрубаў... Я гляджу зверху, мне добра відно ўсё папялішча, абгароджанае невысокім земляным валам, на якім чарнеюць рэшткі крапасных сценаў. Вал не круглы, а яйкападобны. Сто дзевяноста крокаў ушыркі, дзвесце пяцьдзесят шэсць — удоўжкі. Тупым канцом прыціснулася яйка да невялікае рачулкі, якая паўкругам абдымае гарадзішча.

Сонца ўжо высока. Прыпякае. Аднак вясна, бачна, сёлета не спяшаецца ў гэты край. І ўсё ж жыццё бярэ сваё, зямля патроху абуджаецца, прарастае першаю кволаю травою—пагоркі ўжо злёгку зелянеюць. Рачулка зіхціць пад сонцам, весела і шумна гоніць сваю ваду паўз гарадзішча. І толькі тут, на гэтым выгаралым лапіку зямлі, ціха.

Ціха.

Ціха, ды не мёртва. Заварушыўся грудок абсмыленых бярвенняў, і аднекуль з-пад яго вылез сухенькі дзядок з доўгаю сівою барадою і ўскудлачанымі валасамі. А за ім — хлапчук, амаль такога ж росту, як дзед, у доўгай, падперазанай вяроўкаю, кашулі, без нагавіцаў, босы. Дзед падслепавата агледзеўся наўкола, прыплюшчыў вочы і падставіў твар сонейку — вусны ягоныя заторгаліся ў лёгкай усмешцы. Потым дзед вярнуўся да бярвенняў, пад якімі, пэўна, была зямлянка, і вынес адтуль нейкі скрутак. Хлапчук тым часам адбегся да бліжэйшага ззеленелага ўзгорка, шчыпаў там і еў нейкія травінкі.

— Гэй, Янусю! — паклікаў дзед. — Йдзіма нерат ладзіць. Аднаму ня справіцца мне.

— Зараз, дзеду, зараз...

Хлапчук падбег да дзеда і падаў яму на далоні некалькі каліў нашчыпаных парасткаў.

— Сам еш, — запярэчыў дзед, — мне й жаваць іх няма чым.

Удвох яны раскінулі нерат на чыстым месцы. Быў нерат увесь у дзірках, увесь у праплешынах. Згніў, ці мышы паласаваліся...

Працы тут было на цэлы дзень. Дзед апусціўся на калені, пачаў моўчкі засучваць нітку. Побач прыладзіўся Янусь.

— Шпакі прыляцелі, — сказаў дзед, зірнуўшы на недалёкі абрубак грушы-дзічкі, — выжывем цяперака, унучак, выжывем...

●

Калі гэта было? Колькі разоў гэта было на маёй зямлі? Хто гэтыя хлопчык і дзед? Чаму я зноў і зноў вяртаюся ў гэты спалены горад? Аглядаю яго і, ведаючы, што будзе далей, назіраю, як дзед і хлапчук ловяць рыбу. Янусь стаіць ля берага, па калені ў вадзе, сярод жоўтае леташняе асакі, а дзед заводзіць нераток па рацэ да затокі. Цяжка яму, глыбока. Ён і плыць спрабуе, падграбае адною рукою і боўтае нагамі. І вось, урэшце, дабіраецца да берага. А нерат — ходырам ходзіць ад рыбы. Гойсае па вадзе ад сеткі да берага вялізны шчупак, а потым пераскоквае праз нераток. Але здабыча ўсё ж немалая: чатыры пузатыя язі, тры шчупакі, некалькі плотак і акунёў.

— Ну яшчэ разэчак і вернемся дадому, — кажа дзед і спіною наперад заходзіць у ваду.

— Дзеду, дзеду, стой!.. — крычыць Янусь.

Але позна. Дзед не бачыў, як выплыла з-за павароту ракі бервяно. І калі зайшоў ён амаль па шыю ў ваду, бервяно ўдарыла яго проста па галаве, збіла з ног, адкінула на глыбіню. Дзед выпусціў нерат, грабануў колькі разоў рукамі і схаваўся пад вадою. Паплыла ўслед за дрэвам ягоная аблавуха...

●

Гэтым шляхам я шмат разоў прыязджаў сюды. Убягаючы ў райцэнтр, ён ператвараецца ў вуліцу імя правадыра і вядзе да плошчы імя правадыра з помнікам правадыру. Насупраць яго трохпавярховаю цаглянаю глыбаю ўзвышаецца над звычайнымі драўлянымі хацінамі райвыканком. За паўсотні крокаў ад яго, у засені дрэў і лазовых кустоў — гнілая рачулка абгінае пагорак дугою. У ёй даўно не водзіцца ніякая рыба. Ляжаць у рэштках стаячай вады, да вясёлкавых плямаў змяшанай з саляркай і бензінам, кінутыя шыны, веласіпедныя рамы, рознае ламачча, якое й не пералічыць...

●

Праз пяць метраў дзед вынырнуў і заплёхаў рукамі па вадзе. Але цячэнне было моцнае і адносіла яго далей і далей. «Што рабіць?» — Янусь пацягнуў да сябе нерат, — мокры і цяжкі ён, з ім не пабяжыш. Янусь выхапіў нож, які заўсёды насіў з сабою, некалькімі спрытнымі рухамі адрэзаў ад нерата палку-дзяржанне, а з ёю — колькі метраў вяроўкі, і рвануўся берагам за дзедам. Забег трохі наперад, злаўчыўся і кінуў дзеду палку. Дзед ухапіўся за яе і Янусь выцягнуў яго з ракі.

— Дзякуй, унучак, дзякуй, але дарэмна... — прашаптаў дзед скрозь кашаль і страціў прытомнасць.

Ён пражыў яшчэ тры дні. А потым на могілках, што побач з гарадзішчам, з'явілася яшчэ адна свежая магіла. Ранейшыя хлопчык капаў разам з дзедам, а гэтую — адзін.

●

Пытанне, чым заняць час тут, у гэтым райцэнтры, ад пачатку не паўставала перада мною. Звычайна прыходжу я ў райвыканком, выбіраю крэсла перад адным з кабінетаў, сядаю, нібы чакаючы выкліку, і... засынаю. Кожны раз мне сніцца сон. Не новы, а як працяг папярэдняга. Сон — не сон, ява — не ява, бо бачу я ўсё да драбніц, і расцягваюцца падзеі ў часе — як у жыцці. На калідоры заўсёды паўзмрок, цішыня. Ніколі не бачу я, каб па ім нехта хадзіў, ніколі не чуў на ім гаманы. Толькі тэлефонныя званкі зрэдчас брынкаюць за сценамі, клічуць не даклічуцца гаспадароў кабінетаў. І думаю я, што людзі ў пакоях за гэтымі дзвярыма таксама спяць днямі і бачаць свае сны. А можа, і мой. Можа, усе мы зараз **там**...

●

Хлопчык застаўся на папялішчы не адзін. Тут, у зямлянцы, жылі ягоная хворая маці і дзве малодшыя сястрычкі. Калі пацяплела, калі апрануліся дрэвы, выйшла і маці з дочкамі да святла. Жоўтыя твары іх моршчыліся ад яркага сонца, брудныя анучы на плячах — апратка — курыліся парай і смярдзелі. Хлопчык бацькоўскім позіркам агледзеў сваю сям'ю і сказаў:

— Нічога, цяперака выжывем. Самае страшнае перажылі...

Маці моўчкі плакала. Без слёз.

Мне хацелася крыкнуць ім, гэтым пакалечаным, прыбітым горам, змучаным хваробамі людзям: «Не хвалюйцеся, не трывожцеся за будучыню! Вы будзеце жыць — бо жыву я! Горад зноў адбудуецца!..» Але дзе я? Чаму мае вочы бачаць гэтых людзей так, быццам я сярод іх, і не бачаць сябе? Чаму я крычу — але не чую свайго голасу? Затое добра чую, што ціха-ціха гаворыць зараз хлапчук маці:

— Вось акрыяеце трохі — пойдзем у Жылаў лес. Будан там зробім. І будзем жыць. Там і пракарміцца лягчэй, і схавацца.

●

З некаторага часу я пачаў заўважаць, што ўвечары, пад канец рабочага дня, выходжу з райвыканкома не адзін. Нехта паспявае выйсці крыху раней за мяне і я толькі бачу, як пагойдваюцца на расцягнутых спружынах уваходныя дзверы. Не, гэта не райвыканкомаўцы. Яны яшчэ доўга, аж да асветленых вокнаў, працуюць. Аднойчы, прачнуўшыся, я крыху хутчэй выскачыў на пляц і ўбачыў, як ад райвыканкома аддаляецца невысокая старэчая постаць. Ці не той гэта дзядок, якога я сустрэў у самы першы свой прыезд сюды? Мы разам чакалі прыёму да старшыні Рады і я тады, седзячы побач з дзядком, неспадзявана для сябе заснуў і прысніў свой першы сон.

●

У паселішча над аціхлай ужо рачулкай вярнуліся людзі, пачалі адбудоўваць яго. Цяпер у мяне было дзве кропкі для назіранняў: горад і лясны будан Янусёвай сям'і. Несумяшчальныя ў прасторы, раздзеленыя добрым дзесяткам кіламетраў, яны збліжаліся ўва мне, нібы я адначасна глядзеў два тэлевізары. Я хацеў бы прыспешыць падзеі, бо ведаў, што ўрэшце рэшт мужчыны паедуць у лес па дубовыя слупы для крапасных сценаў, сустрэнуць там Януся, і ён з сям'ёй вернецца ў родны горад. Але жыццё йшло сваёю павольнаю хадою і нельга было яго падагнаць да шчасця ці спыніць перад небяспекаю і скіраваць іншым шляхам. Усё будзе для Януся так, як будзе, бо яно недзе там, наперадзе, ужо адбылося і толькі чакае яго. Зразумеўшы гэта і прабегшы імклівым позіркам жыццё Януся аж да нараджэння дваццатага ягонага ўнука, а потым і трэцяга праўнука, якога таксама назвалі Янусем, я вырашыў кінуць хадзіць у райвыканком. Вырашыў — і не пайшоў. І ніколькі не здзівіўся гэтаму. Як не здзіўляўся (і не задумваўся нават) раней, а чаму я, уласна кажучы, прыязджаю ў гэты райцэнтр, чаму хаджу ў райвыканком.

●

Назаўтра мне захацелася паблукаць крыху па ваколіцах райцэнтра. На шчасце, надвор'е стаяла цудоўнае. Была сярэдзіна лета, сонца пякло неймаверна старанна, і я, адышоўшы кіламетры два ад горада, прылёг пад лазовым кустом пры дарозе, каб адпачыць трошкі ў цяньку. І тут мяне нехта паклікаў — ласкава гэтак, як гуляюцца з дзіцем:

— Янусь, Янусік, го-го-го! Сто Янусік хоца? Естацкі... — і мне ў рот упіхнулася цыцка.

Я расплюшчыў вочы. Галава мая была павернута так, што я не мог бачыць, што робіцца наўкола, дзе я знаходжуся. Бачыў я толькі твар незнаёмай жанчыны, што схілілася нада мною, і піў, піў малако з яе грудзей.

Напіўшыся, я злаўчыўся і выпхнуў цыцку з роту. Жанчына затуліла яе апраткай і пачала гушкаць мяне на руках, прыпяваючы: «А-а-а-а-а, а-а-а-а-а...» Мільгалі голыя драўляныя сцены, з якіх тырчэў руды мох, закурэлая столь са старых негабляваных дошак, павуціннe па кутох, кавалкі шэрай тканіны... Я падумаў, што ўсё маё мінулае жыццё, пэўна, было якраз падрыхтоўкай да жыцця гэтага, і заснуў на руках у маці, заснуў, каб прачнуцца зноў Янусікам, унукам Януся...

●

Сонца абышло куст і свяціла мне проста ў вочы. Я падняў руку — цень ад яе закалыхаўся на траве. «Я тут, — зразумеў я, — пакуль сплю там... Але што мне цяпер рабіць? Я ж таксама хачу жыць!.. Хто зойме маё месца тут, у гэтым жыцці, калі я зноў прачнуся там? У мяне ж тут ёсць абавязкі перад людзьмі, ёсць родныя

(Працяг на стар. 10—11).

## НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# «Хто хоча паказытаць слых...»

**31 кастрычніка ў Мінску адкрываецца І Міжнародны фестываль сучаснай камернай музыкі, які ладзіць Саюз кампазітараў Беларусі. Кансультант СК кампазітар Віктар ВОЙЦІК адказвае на пытанні карэспандэнта «ЛіМа».**

**— Віктар Антонавіч, падобнай падзеі ў жыцці беларускага Саюза кампазітараў, дый увогуле ў нашым музычным жыцці, не было. Чым растлумачыць гэтае шчаслівае здарэнне?**

— Сапраўды, І Міжнародны музычны фестываль у Мінску, ды яшчэ наладжаны сваімі сіламі, сведчыць пра пашырэнне нашых кантактаў з замежжам, пра іх новую якасць. Раней СК СССР трымаў манаполію на замежныя сувязі, і музыка Беларусі пачувалася нелюбімай падчаркай, загнанаю ў кут, нікому невядомай. Сёння многае змянілася і працягвае мяняцца, мы набываем самастойнасць і ў сувязях з музычным замежжам. Вяртаючыся з вандровак на міжнародныя фестывалі, мы пачалі марыць пра тое, каб запрасіць сваіх новых знаёмых, калег у Мінск. Але для запрашэння мае быць грунтоўная нагода. Узнікла ідэя: сабраць нашых сяброў па творчасці на фестывалі камернай музыкі, бо менавіта з камерных твораў лягчэй скласці разнастайныя мабільныя праграмы, прасцей арганізаваць выканаўцаў для іх падрыхтоўкі. Тым больш, што ёсць музыканты, якія самі шукаюць новыя ноты, маюць кантакты з кампазітарамі. Спачатку ў СК, асабліва старэйшыя таварышы, з недаверам успрынялі намер правесці фестываль менавіта сучаснай, пераважна мадэрнісцкай, музыкі. Але цяпер і скептыкі з цікавасцю чакаюць, а што ж гэта будзе.

**— І што ж гэта будзе?**

— З 31 кастрычніка па 3 лістапада адбудзецца 9 канцэртаў у абедзвюх залах філармоніі, у Музычным ліцэі, кансерваторыі, Доме работнікаў мастацтваў. Плануецца і дыскусія. Праграмы настолькі незвычайныя, што я з цікавасцю буду слухаць кожны канцэрт і сам, спадзеючыся на нейкія эстэтычныя ці прафесійныя адкрыцці. Тут і «класічныя» авангардысты: англічанін П. Дэйвіс («Міса супер»), масквічка С. Губайдуліна («Канкарданца»), амерыканец Э. Варэз («Актандр»), італьянец Л. Нона («Паліфоніка, мелодыка, рытміка»), венгр Д. Лігеці. Тут і зусім арыгінальны талент А. Шнітке («Серэнада»). Тут і невядомыя большасці нашых музыкантаў — а што казаць пра публіку!—немец Ф. Херферт, балгарка Н. Хрысцева, аўстрыец Х. Эдэр. Усіх і не назавеш. І ўсё нязвыклае, размаітае: імёны аўтараў, назвы твораў, формы, жанры, выканаўчыя склады...

**— Як прадстаўлена ў праграмах творчасць гаспадароў фестывалю?**

— У кожным канцэрце абавязкова прагучаць творы беларускіх кампазітараў. І фестываль непазбежна зробіцца гэткім далікатным спаборніцтвам паміж творцамі нашымі і замежнымі, мастакамі прыкладна аднаго пакалення. Разумеючы адказнасць за тое ўражанне, якое можа зрабіць беларуская музыка на гасцей, слухачоў, мы падбіралі творы паводле досыць строгіх крытэрыяў, адмаўляючыся нават ад добрай музыкі, якая хоць бы толькі стылістыкай выбівалася з фестывальнай панарамы. Будуць гучаць ужо знаёмыя нашай публіцы «Партыта» У. Дамарацкага для квінтэта медных духавых, «Стронцый-90» С. Бельцюкова ды «Краявід» А. Залётнева для ансамбля, «Званы» У. Кур'яна для цымбалаў, творы Д. Смольскага, Р. Суруса, Я. Паплаўскага, Г. Гарэлавай. Будуць і прэм'еры: «Стужка Мёбіуса» В. Кузняцова для групы выканаўцаў, «Вір» А. Літвіноўскага для квартэта валторнаў. Адбудзецца знаёмства з работамі студэнтаў аддзялення кампазіцыі БДК...

**— Ад выканаўцаў такі аб'ём разнастайнай і нялёгкай для ўвасаблення музыкі вымагае вялікай творчай ды прафесійнай самаадданасці. У кулуарах гэты фестываль называюць фестывалем ансамбля «Класік-Авангард». Ансамбль нястомны ў пошуку нот, прагны да новай музыкі. Фактычна дзякуючы яму і адбудуцца асноўныя канцэрты. Вы згодны, Віктар Антонавіч, з такім азначэннем?**

— Так, дзякуючы ініцыятыве кіраўніка ансамбля салістаў «Класік-Авангард» У. Байдава мы атрымалі ладную частку фестывальнага рэпертуару. Радуе, што такі таленавіты, але беспрытульны да нядаўняга часу калектыў, які ўлетку апынуўся ўжо на мяжы распаду, набыў, нарэшце, стабільны статус, матэрыяльную базу, працуе цяпер пры тэатры оперы і балета. Прыемна, што яго першым выхадам да публікі ў новай якасці—у якасці дзяржаўнага мастацкага калектыву, сталася такая сур'ёзная акцыя—падрыхтоўка найскладаных фестывальных праграм. Побач з «Класік-Авангардам» удзельнічаюць іншыя беларускія інструменталісты і госці. Прынамсі, ужо вядомая партнёрка ансамбля, літоўская вакалістка Ю. Лейтайтэ, а таксама яе зямляк скрыпач П. Кунца, спецыяльна для якога напісала санату наша Г. Гарэлава...

**— Хто яшчэ прыедзе на фестываль і як вы мяркуеце прымаць гасцей?**

— Чакаем кампазітараў: Ф. Херферта (Германія), М. Эдлунда, С. Г. Шонберга, А. Гацкосіка (усе — Швецыя), А. Пенхэрскага (Польшча), А. Калагераса (ЗША), Н. Хрысцеву (Балгарыя), Р. Хальмуліна (Татарстан), Р. Бівейніса (Літва). Даслалі запрашэнні ў кампазітарскія арганізацыі Масквы, Пецярбурга... Фестывальны графік вельмі шчыльны—9 канцэртаў за 4 дні, так што пра нейкую культурную праграму ў вольны час гаварыць недарэчна. А вось каб нашым гасцям добра пачувалася на беларускай зямлі, мы дамовіліся з Саюзам пісьменнікаў—і жыць яны будуць у Доме творчасці «Іслач». Усе выдаткі—за кошт Саюза кампазітараў.

**— Віктар Антонавіч, а якія надзеі звязвае СК з гэтым фестывалем?**

— Для чаго ён нам патрэбны, хочаце сказаць? Вядома, сёння, калі паўсюль гаворыцца пра нацыянальнае адраджэнне, хацелася б, каб і мы больш займаліся беларускасцю ў музыцы. Але адно другому не пярэчыць, і, выходзячы на сусветныя кантакты, мы павінны ведаць, чым жа свет жыве. Гэта датычыць усіх сфер. І кампазітарам таксама трэба ведаць, што робяць калегі-замежнікі, вучыцца, параўноўваць, асвойваць, каб дарэмна не паўтараць тое, што ўсё роўна, але са спазненнем, даходзіць і да нас.

Я не надта спадзяюся на ажыятаж публікі вакол канцэртаў, але веру, што інтэлігенцыя, асабліва маладая, зацікавіцца імі. Хацелася б убачыць у зале не толькі музыкантаў, але і мастакоў, і паэтаў, і навукова-тэхнічную інтэлігенцыю. Хто захоча паказытаць свой слых незвычайнай, часам, так бы мовіць, эпатажнай музыкай, пашырыць свае ўяўленні пра музычны авангард (па шчырасці: ну хто яго ў нас ведае?), раскатурхаць кансерватыўны эстэтычны густ, — той не пашкадуе.

СК Беларусі пайшоў на значныя выдаткі. Але мы спадзяёмся, што дзякуючы фестывалю, ягоным гасцям, пра беларускую музыку будуць хоць крышку больш ведаць у свеце, што мы зможам разлічваць і на падтрымку міжнароднага супольніцтва сучаснай музыкі—а гэта значыць, замежныя выканаўцы будуць прыязджаць за ўласны кошт на нашы наступныя фестывалі... Вядома, для гэтага трэба на добрым узроўні правесці наш першы міжнародны.

**— Дзякуй, Віктар Антонавіч, за інтэрв'ю.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**



«Класік-Авангард» у чаканні фестывалю...

## МУЗЫЧНЫ КУФЭРАК

# «Пані Ядвіга» інтрыгуе...

Мы дасюль пад уражаннем новага музычнага твора, які даў надзею, што жанр вяртаецца. Я гавару пра оперу У. Солтана «Дзікае паляванне караля Стаха». Хто слухаў яе, можа са мной пагадзіцца ці, наадварот, запярэчыць, ды мне здаецца, першая спроба кампазітара ўдалася. І вось — наступная спроба. З-пад пяра У. Солтана з'явіўся новы твор у гэтым жанры — «Пані Ядвіга».

Другая опера таксама на гістарычную тэму, і з абывацельскага пункту гледжання сюжэт інтрыгуе: князі, паненачкі, каханне, звадкі... «Дзікае паляванне караля Стаха», як вядома, пісалася паводле аднайменнага твора У. Караткевіча, а «Пані Ядвіга» — паводле аповесці К. Тарасава «Чорны шлях».

XV стагоддзе. Вялікае княства Літоўскае. Суддзя Ваньковіч. Знаёмае прозвішча: мінчане і сёння могуць пабываць на цудам ацалелым месцы, дзе быў дом Ваньковічаў. Хвалюючая любоўная драма на фоне гістарычных падзей, ды пры сённяшнім успleску цікаўнасці да таго, што было да 17-га года, ды з тымі, хто так падобны да нас! Хіба не актуальныя сёння такія паняцці, як годнасць і ганьба, вернасць і здрада, праўда і мана, высакароднасць і кланавая, класавая, партыйная залежнасць... Так, многа ўсяго, што стагоддзямі не губляе надзённасці. У тым, што У. Солтан услед за «Стахам» не паленаваўся ўзяцца за партытуру другой оперы, вялікая заслуга лібрэтыста С. Клімковіч. Думаю, аўтараў не толькі ўсхвалявалі сюжэты даўно мінулых дзён, але ўразіла іх актуальнасць. Ёсць, канешне, небяспека, што другі, падобны па тэме твор, можа расчараваць, але многае залежыць ад намаганняў творчага калектыву, калі опера будзе прынята да пастаноўкі...

Кампазітар прызнаўся, што музыкі ён напісаў калі не на дзве, дык яшчэ на паўтары оперы, і хто ведае, ці не возьмецца У. Солтан неўзабаве і за трэцюю — колькі яшчэ невядомых гістарычных тэм, час адкрываць!

**Н. ЗАХАРАВА.**

# Мроі

(Пачатак на стар. 8—9).

і блізкія, якім я патрэбен, якія чакаюць мяне з камандзіроўкі... Ну добра, пакуль Янусік маленькі, можна падманваць яго і сябе, але што будзе далей?..». І я паспяшаўся ў райвыканкам, да свайго крэсла, з надзеяй, што змагу там хоць нешта высветліць...

●

Я прачнуўся ў той самай хаце, пад той самай закурэлай ад лучыны столлю і заплакаў. Дзіўна было мне чуць гэты пісклявы галасок, дзіўна было адчуваць непаслухмяныя пакуль, кволыя ручкі і ножкі... Адно было знаёмым: жаданне есці. Я павярнуў галаву і ўбачыў, што да мяне падыходзіць маладая жанчына (лепш сказаць проста: дзяўчына). Маці — зразумеў я. Яна была невысокая, танклявая, на плячы ляжала тоўстая русая каса. Заклапочаны твар здаваўся не па гадах сур'ёзным, але разам — прыгожым. «У такую можна закахацца...» — падумаў я, зручна ўладкоўваючыся ў маці на руках і ловячы губамі знаёмыя грудзі.

●

Я моцна спяшаўся, аднак не паспеў: райвыканком ужо зачыняўся. Цяжка дыхаючы, увесь узмакрэлы, часам ледзь не страчваючы прытомнасць ад бяссілля, бо даўно так доўга і шпарка не бегаў, я выскачыў на пляц правадыра і ад помніка правадыру ўбачыў, як выходзіць з будынка дзядок, пра якога я ўжо згадваў, і за ім вартаўнік зачыняе знутры дзверы. Я спыніўся, адышоў пад дрэва, прысеў на лаўку. Трохі аддыхаўся і, калі падышоў да мяне дзядок, я спытаў у яго гучна, як мог:

— Не скажаце, як дайсці да гатэлю?

Дзядок павярнуўся да мяне і вельмі знаёмым-запомненым, неаднойчы бачаным, падаўся мне ягоны твар...

●

Ніколі не думаў, што немаўлятам сняцца сны. Прытым сны зусім дарослых людзей. Вось і я, папіўшы малачка, зноў супакоіўся і заснуў. І прысніўся мне горад. Не так, каб вялікі, але з усімі адзнакамі горада: з пляцам і помнікам на ім, з прыгожым трохпавярховым будынкам, на якім развіваецца выцвілы, амаль белы, сцяг. Вечар, на пляцы нікога няма. Толькі на адной з лавак сяджу я і размаўляю з нейкім дзядулем:

— Ветэран я, унучак, — кажа дзядок, — усіх войнаў. З японцам, праўда, не паваяваў: малым быў яшчэ, затое ў германскай — крыжом георгіеўскім узнагародзілі, а ў грамадзянскай я і з белымі быў, і ў партызанах, і з чырвонымі потым Урангеля біў. А калі немцы зноў прыйшлі — ого! — пяцьдзесят гадоў было мне, камандзірам атрада стаў. Тут, недалёка, у лесе ваявалі. Усе мяне ведаюць. І паважаюць. Заўтра будзе мне сто гадоў. Ага. А што табе трэба?

— Як да гатэлю прайсці?

— Гавары грамчэй, а то я ня чую. У апошнюю вайну мяне кантузіла. Як цяпер памятаю: сядзім мы ў засадзе пры дарозе, немцаў цікуем, а тут, адкуль ні вазьміся, «рама» іхняя. Убачыла нас і бомбу кінула. Блізка ўпала. Цэлы тыдзень потым у мяне з вушэй кроў цякла. А што ты хацеў?

Нас было двое: адзін сніў, другі размаўляў. І тое, чаго не бачыў адзін, адчуваў другі. І ведаў ужо маленькі Янусь, што дзядок зусім не той, кім прыкідваецца, і не глухі ён, і не стары, і цікуе за мною даўно...

●

Дзядок быў глухі, гаманіў бесперапынна, распавядаў пра свае ветэранскія заслугі і льготы, быццам час адцягваў. Я разумеў, што не дакрычацца мне да яго, а быць проста ўдзячным слухачом не хацелася, дый часу не ставала: трэба было дзейнічаць. Аднак нешта не адпускала мяне, прымушала пабыць з дзядком. «Пасяджу трохі яшчэ, а потым пайду на аўтавакзал: з'еду адсюль на апошнім аўтобусе і ніколі больш сюды не вярнуся», — падумаў я.

— Што, што... — перапытаў раптам дзядок, — куды з'едзеш? Не дуры, хлопец, пойдзем да мяне — пераначуеш, а там пабачым...

— Што пабачым?

— Пабачым і пабачым... Дарогаю раскажу, пайшлі! — і прагучала гэта як загад.

Але мне трэба было ўжо быць там, у той хаце, дзе я зараз прачынаўся ў калысцы...

— Пастой, пастой, хлопча, ты куды? — толькі й пачуў я крык дзядка ўслед.

РЭПЛІКА

# НЯЎЦЯМНАЯ ЗАКАНАМЕРНАСЦЬ

У адным з апошніх нумароў штотыднёвіка «Наша слова» (2—8 кастрычніка 1991 года) увагу чытачоў напэўна ж запыніла рэпліка А. Карлюкевіча «Калі адгуляем акадэмічную «свадьбу». Аўтар выказваў зразумелае здзіўленне, чаму гэта кніга Т. Варфаламеевай «Паўночна-беларускае вяселле: абрад, песенна-меладычныя тыпы», выпушчаныя выдавецтвам «Навука і тэхніка», выйшла на рускай мове. А. Карлюкевіч у дадатак здзіўляўся і таму, што газета «Навіны Беларускай акадэміі» друкуецца таксама не па-беларуску, а на моднай зараз трасянцы — частка матэрыялаў па-руску, частка — па-беларуску. Якая частка пераважае, сведчыць тое, што нават нататка «Возрождается национальный язык» надрукавана на мове «старэйшага брата».

Правільна ставіць пытанне спадар Карлюкевіч. Толькі ў адным, думаецца, ён памыляецца. Выпадак з «белорусской свадьбой» не выпадковасць, а, на жаль, заканамернасць. Выдавецтва «Навука і тэхніка» шмат якія кнігі па пытаннях тэатра, мастацтва, музыкі выпускае на рускай мове.

Пры жаданні можна прывесці не адзін прыклад такіх выданняў за апошнія гады. Нічога, бадай, не мяняецца і цяпер, пасля прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

Зазірнём у план выпуску літаратуры на 1992 год, раздзел «Мастацтва, мастацтвазнаўства». Першая ж кніга, што значыцца ў ім, выйдзе па-руску — «Тэатральная культура Беларусі XVIII стагоддзя».

Праз дзве пазіцыі стаіць кніга аднаго з кіраўнікоў культурнага працэсу суверэннай беларускай дзяржавы Р. Бузука — «Сучасны беларускі тэатр. Стан, праблемы, перспектывы». Пазначана, што яна таксама выйдзе на рускай мове. Не ведаю дакладна зместу выдання, але адно можна пэўна сказаць: стан нашага тэатра не з лепшых, калі нават родную мову забываем.

Рускамоўная і кніга В. Дадзіёмавай. Чаму? Відаць, таму, што кніга называецца «Музычная культура гарадоў Беларусі ў XVIII стагоддзі». Пра горад ну аніяк нельга гаварыць па-беларуску! Пэўна, па гэтай прычыне і калектыўная манаграфія «Музычны тэатр Беларусі: 1917 — 1959» таксама выдаецца на рускай мове (першая частка выдання, у якой разглядаўся дакастрычніцкі перыяд, ужо выйшла).

І ў раздзеле «Навукова-папулярная літаратура» знаходзім аўтара, якому, па ўсім бачна, не хочацца пераходзіць на беларускую мову, — гэта Л. Лявонава. Яе брашура, калі верыць анатацыі, вельмі патрэбная — «упершыню ў беларускім тэатразнаўстве разглядаецца актуальная для сучаснага драматычнага тэатра праблема актыўнага пранікнення музыкі ў сцэнічны сінтэз». Няўжо ж беларусы нічога не зразумеюць, калі пра ўсё гэта будзе сказана па-беларуску?! Дзіўна, але ў выдавецтве «Навука і тэхніка» прытрымліваюцца, пэўна, якраз такой думкі.

Вядома, цяжкасці з выпускам беларускамоўных кніг ёсць. Рукапісы, што паступаюць у выдавецтва, пераважна рускамоўныя. Але хто забараняе таму ж выдавецтву прапанаваць аўтару перакласці рукапіс на беларускую мову? У рэшце рэшт, у «Навуцы і тэхніцы», як правіла, выпускаюцца планавыя работы навуковых супрацоўнікаў, што працуюць у акадэмічных інстытутах. У інстытутах Акадэміі навук Беларусі! Прафесійны абавязак навукоўцаў — ведаць мову суверэннай дзяржавы. Не паспеў вывучыць, што ж — карыстайся да пэўнага часу дапамогай перакладчыкаў.

Будзем выконваць Закон аб мовах!

ЛІМАВЕЦ.

# «Каб стаць нацыяй, найперш патрэбны духоўныя высілкі»

(Пачатак на стар. 5).

імшу ў беларускай мове (іх, здаецца, ужо дванаццаць), варты ўсякай маральнай падтрымкі.

Мне ўжо даводзілася выказвацца ў «ЛіМе» наконт будаўніцтва Беларускай Каталіцкай Царквы і Беларускай Праваслаўнай Царквы. Дзеля апошняга бачацца большыя перашкоды. Рыма-Каталіцкая Царква — больш гнуткая, калі можна так сказаць, — больш рацыянальная царква, бо навучылася жыць самастойна і ўвесь час жыла самастойна. Праваслаўная Царква, якая ўвесь час знаходзілася пад пятой вялікіх князёў маскоўскіх, цароў, імператараў, — не магла выпрацаваць і зараз аніяк не можа весці самастойнай палітыкі. І мяне сёння непакоіць, што Руская Праваслаўная Царква з аднаго боку хаўрусуецца з вялікадзяржаўна-імперскімі, падпольна-шавіністычнымі, антысеміцкімі элементамі («Отечество», «Белая Россия»), адпраўляючы паніхіды па цару і Сталыпіну. Для мяне, беларуса, гэта абразліва. (Хоць я і ведаю, што цар быў забіты несправядліва, мне адначасова добра вядома, кім быў цар для Беларусі). З другога боку — хаўрус з камуністамі. Што такое праваслаўная царква, наглядна паказаў путч, калі чатыры іерархі РПЦ адмовіліся падпісаць Заяву разам з Патрыярхам. Як жа вызначыўся ў тыя дні мітрапаліт Мінскі і Гарадзенскі — вось пытанне.

І таму, пакуль палітыка і Рыма-Каталіцкай, і Рускай Праваслаўнай Царквы будзе ігнараваць законныя інтарэсы беларускай дзяржавы, беларускага народа, нашай культуры, мовы — да гэтага часу я буду змагацца з іерархіяй. Але, змагаючыся з іерархіяй, я не змагаюся з Богам. Я, паўтараю, — не атэіст.

**— Вы — за незалежную, дэмакратычную і прававую дзяржаву, за росквіт нашае культуры, за беларускія Праваслаўную і Каталіцкую цэрквы, за плюралізм у палітыцы і эканоміцы. У адным з інтэрв'ю (здаецца, газеце «Свабода») вы занчаеце, што такі— сацыял-дэмакратычны — шлях для нас найбольш прыдатны гістарычна. Наколькі рэальныя перспектывы гэтага шляху сёння?**

— У тэксце прыгаданага інтэрв'ю былі недакладнасці. Што такое сацыял-дэмакратычны шлях? Такога шляху няма. Ёсць шлях сацыяльнай дэмакратыі. Дэмакратыя ў свеце ішла пакручастымі сцежкамі. Вы помніце афінскую рабаўладальніцкую дэмакратыю, полацкую дэмакратыю, якая таксама была абмежаванай. Нарэшце, — пралетарска-бальшавіцкая дэмакратыя — дэмакратыя для меншасці і дыктатура для большасці. А сацыял-дэмакраты ў той час, калі бальшавікі змагаліся за дэмакратыю для меншасці і дыктатуру для большасці, высунулі лозунг сацыяльнай дэмакратыі. Гэта — **дэмакратыя для соцыуму,** для ўсяго грамадства, на прынцыпах свабоды, роўнасці і салідарнасці. І калі б не змаганне сацыял-дэмакратыі, хіба ж было б у свеце ўсеагульнае, роўнае, прамое выбарчае права? Сацыял-дэмакратыя і рабочы рух гэтага дамагліся, выключаючы гвалтоўныя метады барацьбы, уласцівыя бальшавікам і іншым левым экстрэмістам.

Такая ж «цывілізаваная» тактыка была і ў нашых беларускіх незалежнікаў пачатку стагоддзя. Менавіта за сацыяльную дэмакратыю змагаліся і айцы Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

**— Але, відаць, ім не хапіла моцы давесці свае намаганні да канчатковай мэты?**

— Я вам скажу, што яны ў пэўнай ступені апярэдзілі свой час. Гэтаксама і расійскія сацыял-дэмакраты, якія ішлі за Пляханавым, Мартавым, Данам, Цэрэтэлі. Мне ўжо даводзілася казаць, што стваральнікі БНР былі вельмі цывілізаванымі людзьмі для свайго часу.

**— А ці не вельмі цывілізаваныя для нашага часу айцы БСДГ?**

— Якраз цяпер мы, мусіць, упісваемся ў кантэкст. Хоць і цяпер у нас ёсць звышдэмакраты, якія, напрыклад, гавораць аб **прыярытэце** прыватнай уласнасці, прыніжаючы ролю ўласнасці калектыўнай. Гэта ўжо іерархія, а не раўнапраўе.

Ёсць і прыхільнікі абсалютна свабоднага рынку. Выбачайце, але гэта няпраўда. Рынак рэгулюецца нават і ў ЗША: паспрабуйце вы завезці туды нейкі тавар, які можа заглушыць пэўную галіну амерыканскай прамысловасці? Так што не трэба хваласпеваў абсалютна свабоднаму рынку.

Мы, сацыял-дэмакраты, ведаем, што пры любым ладзе — і камуністычным, і капіталістычным — ёсць аматары пажывіцца за чужы кошт, і, значыць, мы павінны пільна стаяць на варце і бараніць інтарэсы тых, хто слабейшы, каго, даруйце, могуць «задзяўбаць». Бараніць эканамічную і грамадзянскую роўнасць і свабоду, каб свабода аднаго грамадзяніна не абмяжоўвала свабоды іншых. Мы стаім за сацыяльную дэмакратыю.

**— Можа, не маю рацыі, але здаецца, што Грамада (у сэнсе партыя) не скора стане рэальна і адчувальна ўплываць на беларускую палітыку. Ці не будзе вам, Анатоль Міхайлавіч, шкода згубленага для літаратурнай творчасці часу?**

— Грамада рэальна ўплывае на палітыку ўжо цяпер. Тут адбыўся нейкі цікавы збег акалічнасцей. Давайце не забудзем, што «апазіцыя БНФ» — гэта парламенцкі «псеўданім» і сацыял-дэмакратаў. І многія законапраекты, распрацаваныя сацыял-дэмакратамі, чамусьці станавіліся дакументамі **толькі** БНФ. Мы нічога не маем супраць гэтага, але, думаецца, наперад дэпутатам нашай фракцыі трэба будзе называцца «апазіцыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады».

Сам я быў у ліку тых, хто ствараў БНФ. У Сойме БНФ засядаюць мае таварышы па партыі. На першым з'ездзе БНФ я выступаў з рэфератам «Суверэнітэт», на канферэнцыі — з прамовай аб незалежнасці. І многія выказаныя ідэі цяпер рэалізуюцца. Тое, што ёсць у дакументах БНФ, у значнай ступені выпрацавана сацыял-дэмакратамі. Яны, дарэчы, былі найбольшай партыйнай групай на апошнім з'ездзе БНФ.

Мы не думаем, што станем масавай партыяй, ды й не ставім такой мэты. Мы думаем, што будзем уплываць на грамадскія працэсы дзякуючы інтэлектуальнаму патэнцыялу. Да нас ідуць эканамісты, юрысты, лекары, настаўнікі, навукова-тэхнічная інтэлігенцыя, высокакваліфікаваныя рабочыя і нават сяляне. Мы думаем, што парламенцкая партыя бярэ не колькасцю, а перш за ўсё — інтэлектам.

Што тычыцца мяне асабіста, дык я даражу спадчынай нашых папярэднікаў пачатку стагоддзя, і не шкадую, што трачу час на партыйную работу.

**— Закончыць нашу гутарку хацелася б пытаннем, якое дало назву аднаму з вядомых вашых артыкулаў у «ЛіМе» — ці становімся мы нацыяй і чаго бракуе для такога стаўлення?**

— Вось я якраз і хацеў бы, каб партыйная работа, пра якую казаў, вяла да стварэння беларускай нацыі. У адным лісце Уладзімір Жылка вельмі цікава напісаў, што, маўляў, вось там, у Менску, хваляцца, што ў нас на Беларусі няма ніякай буржуазіі. Яно было б добра, кажа далей Жылка, калі б буржуазіі ўвогуле не было, а раз яна ёсць, дык трэба, каб была і беларуская буржуазія. Бо буржуазія — гэта адзнака сталасці нацыі. Усе нацыі з'явіліся толькі тады, калі з'явілася буржуазія. Гэтак было ў Францыі, Нямеччыне, гэтак рабілася і на Беларусі, і толькі бальшавіцкія эксперыменты спынілі гэты натуральны працэс. І як ні дзіўна гучыць, але я, сацыял-дэмакрат, хачу, каб у нас на Беларусі была свая буржуазія.

**— Бел-чырвона-белая?**

— Нармальная. Багатая, але не скнарая, якая б фундавала грамадству на галерэі і будаўніцтва тэатраў, на выпуск газет і часопісаў, на ўтрыманне акторскіх труп. Я хачу такой буржуазіі, як Траццяковы і Марозавы ды іншыя расійскія прамыслоўцы. Апірышча сацыяльнай дэмакратыі — моцны сярэдні клас, які сімвалізуе сабой заможнасць грамадства і неадступна пільнуецца свабоды.

Але хачу паўтарыць: для таго, каб мы сталі нацыяй, — трэба працаваць. Да міжнароднай супольнасці мы належым, у еўрапейскую рана ці позна ўступім, войска займеем і г. д., але найперш патрэбны духоўныя, інтэлектуальныя высілкі. І тут мы зноў вяртаемся да пытання аб культурнай рабоце ў вёсцы, аб станаўленні беларускай навукі, беларускай школы, беларускай царквы, аб штодзённай працы на ніве асветы.

Гутарыў Юрась ЗАЛОСКА.

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Алесь Шпыркоў — чалавек ужо сталага веку. Не адну і не дзве дарогі прайшоў і праехаў ён за сваё журналісцкае жыццё. Шмат убачана, шмат перажыта, прапушчана праз сэрца, як той казаў. Шмат і вершаў напісана. Алесь — адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Сцяжына», друкаваўся ў «Маладосці», рэспубліканскіх і мясцовых газетах. А вось «ЛіМ» неяк абмінуў майго земляка, вершы якога — ад жыцця і ў імя жыцця.

Разам з іншымі яны складуць ужо сваю асобную паэтычную кніжку пад умоўнай назвай «Карабель мой блакітна-зялёны», здадзеную ў выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Алег САЛТУК,
сакратар Віцебскага абласнога
аддзялення СП Беларусі.

Алесь ШПЫРКОЎ



## Вяртанне блуднага сына

Мы блукалі зусім не ў пустыні,
І не сорак, а семдзесят год.
Былі грэшнікі, былі святыя,
І з выгодамі, і без выгод.
І не ўсе мы ад славы аслеплі,
І ад гора не ўсе адышлі.
Ды ці стала ад гэтага лепей!
Усё роўна мы рай не знайшлі.
Ну а дроў наламалі мы столькі,
Не пакінуўшы цэлых лясін!..
І вяртаемся зноў да вытокаў,
Як да бацькі аблудны той сын.

●

Самай грэшнай Зямлю
Мы зрабілі ў Сусвеце.
Замест зерня ў раллю
Шпарка кідаем смецце.
А што ўзыдзе пасля,
Нас чамусь не турбуе.
Сатанінская тля
Нашы душы рабуе.
І як стогне без сіл
Маці ледзьве жывая,
Мы не чуем зусім —
Хай сабе памірае.
Глухнем мы пакрысе
І душою і целам,
Лёс у пекла нясе,
Хоць мы раю хацелі.
Ужо космас дрыжыць
За наш лёс чалавечы,
І ратунак бяжыць
Па дрыготкай сінечы.
Ды не чуе наш слых,
Невідушчыя вочы:
Не анёлы, аслы
Трубяць нам днём і ноччу.
Бог у нашай душы
Спакваля памірае.
Мы так доўга вісім
Паміж пеклам і раем.

## Агонь і попел

Ступіўшы ў храм былога,
Не тым анёлам кленчым.
Без веры і без Бога
Патух святы агеньчык.
Гісторыя, як фенікс,
Каторы раз згарае.
І, стаўшы на калені,
Мы попел той збіраем.
А замест храма — ляда.
І ні адной агніцы.
Хацелі б мы і рады,
Ды некаму маліцца.
Дакуль жа на каленях
Стаяць і адмаўляцца!..
Гісторыя, як фенікс:
З агню ёй аднаўляцца.

торбаў і валізак. Туды-сюды ездзяць аўтобусы, машыны. У Рудні, у адрозненне ад Веліжа, няма ніякай патрыярхальнасці, свайго ўласнага мікраклімату. Амаль не засталося тут старажылаў 20—30-х гадоў. А ўзгадаць сёе-тое было б варта, бо Рудняншчына яшчэ да канца 20-х захоўвала свой назоў «Беларуская Смаленшчына», а да рэвалюцыі на правах валасці ўваходзіла ў Аршанскі павет Магілёўскай губерні.

У 20-х і на пачатку 30-х гадоў у Руднянскім павеце Смаленскай губерні працавалі беларускія школы. Колькасць іх, праўда, была невялікая—прыкладна 20. У самой Рудні 9-гадовая школа з 1928 года пераводзілася на беларускую мову, выкладаўся ў ёй курс беларусазнаўства. Архіўныя дакументы паказваюць, што там, дзе выкладчыкі былі сапраўднымі беларускімі патрыётамі, перавод ажыццяўляўся лёгка. А ў тых школах, дзе настаўнікі фармальна ставіліся да беларусізацыі, справа не йшла, нягледзячы на старанне Беларускай Секцыі пры Смаленскім губернскім аддзеле народнай асветы забяспечыць вучняў падручнікамі, а настаўнікам аказаць метадычную дапамогу. Дакументы адлюстроўваюць і надзвычай складаныя ўмовы працы беларускіх асветнікаў на Смаленшчыне, мясцовае і губернскае кіраўніцтва якой толькі пад ціскам Масквы дазволіла беларускую працу на тэрыторыі губерні, бо само неадназова заяўляла, што беларусаў як нацыі не існуе і таму ніякая нацыянальная асвета сярод іх не патрэбна. Заявы гэткага кшталту зафіксаваны ў дакументах і скаргах Беларускай Секцыі пры ГУБАНА.

Гісторыя беларускага школьніцтва на Смаленшчыне дагэтуль не асветлена навукоўцамі і публіцыстамі, і таму сёння невядома, чаму і калі на тэрыторыі губерні, у тым ліку на Рудняншчыне была зачынена апошняя беларуская школа. Ёсць падставы меркаваць, што канцом беларускай асветы на Смаленшчыне трэба лічыць 1934—35 навучальны год.

Вырашаем паездзіць па Руднянскім раёне.

## Любавічы

Любавічы—колішні цэнтр воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні. Беларуска-яўрэйскае мястэчка. Пасля 1918 года Любавіцкая воласць увайшла ў склад Руднянскага павета Смаленскай губерні.

Мястэчка і сёння вядомае сярод яўрэяў усяго свету. На жаль, мы так і не змаглі дакладна высветліць, чаму, але ці то хтосьці са славутых яўрэяў тут нарадзіўся і жыў, ці то чымсьці праславілася тутэйшая яўрэйская абшчына. Зараз яўрэі тут не жывуць, усіх іх расстралялі ў ваколіцах пасёлка немцы пад час вайны. Але жыве памяць, і таму яўрэі з розных краін свету маюць намер паставіць у Любавічах помнік і арганізаваць у гэтае мястэчка паломніцтва.

Беларуская гісторыя Любавічаў не такая адметная. Нас найбольш цікавяць беларускія школы, якія існавалі тут у 20—30-х гадах. Архіўныя дакументы захавалі і імёны настаўнікаў—загадчыка Любавіцкай беларускай раённай школы Івана Варанога ды некаторых іншых.

У цэнтры Любавіч стаіць касцёл, пабудаваны ў стылі барока. Праўда, цяпер гэта праваслаўны храм. Мясцовы святар, які нядаўна прыехаў сюды з Заходняй Украіны (як і яго калега ў Веліжы), распавёў нам, што пабудаваны храм у 1653 годзе як каталіцкі, але каталіцкім быць не паспеў, бо Любавічы ўвайшлі ў склад Расіі, і таму тут адчынілі храм праваслаўны. Са Смаленска прывезены быў іканастас. Толькі зараз храм аднаўляе службу, хаця прыход вельмі маленькі і святар мусіць толькі час ад часу прыязджаць сюды на службу. Была ў Любавічах яшчэ адна царква, якую спалілі ўжо пасля вайны. Была сінагога. Яе таксама разбурылі.

Святар расказвае нам, што сёння ў Любавічах двароў 150, ды амаль усе людзі прыезджыя з самых розных раёнаў. Беларусаў сярод іх няма.

Гаворыць суразмоўца пра клопаты з рэстаўрацыяй храма. Пад храмам вялікае сутарэнне, якое цяпер завалена смеццем. Людзі, якія даўно жывуць у Любавічах, сцвярджаюць, што з сутарэння ёсць падземны ход, які невядома куды вядзе.

Змяркаецца. Думаем пра начлег. Але намёт проста няма куды ставіць, бо ўсюды вада і бруд. Рудняншчына ўся ў балотах. Не ратуе нават меліярацыя, якая «прайшлася» ўсюды: палі ўсё роўна стаяць у вадзе. Нават у паветры адчувальная вільгаць. З цяжкасцю знаходзім адносна сухое месца. Вырашаем, што з ранку падзелімся на дзве групы і паедзем па розных маршрутах, каб хутчэй усё аб'ехаць ды пакінуць час на Смаленск.

**3 мая**

Частка групы «Выбранцаў» застаецца ў Любавічах, каб наведаць суседнія вёскі Шубкі і Казімірава. Другая частка адпраўляецца праз Рудню ў вёскі Магільна, Круглоўку і Одрына.



Галоўная вуліца Веліжа.

Ва ўсіх гэтых паселішчах у 20—30-я гады працавалі беларускія школы. З дакументаў вядома і пра беларускія школы ў Альшанах, Соіне, Юрцэвічах, Бярэзніне, Дземяхове ды іншых вёсках і мястэчках.

У Рудні даведаліся, што аўтобусы на Одрына і Магільна не ходзяць, бо там кепская дарога ды якраз прайшлі дажджы. Круглоўка ж знаходзіцца пры шашы Смаленск—Віцебск, але менавіта з гэтай прычыны мы і не спадзяёмся штосьці цікавае знайсці там. Вырашаем дабірацца да Магільна сваім ходам, а калі паспеем, то наведаем і Одрына.

Хвілін 15 ехалі на электрычцы з Рудні ў бок Віцебска да раз'езда. Нам пашанцавала: на спадарожнай машыне прамінулі дарожныя лужыны, і мы—у Магільна.

У ваколіцах вёскі шмат хвойных лясоў. У параўнанні з ваколіцамі Любавічаў няшмат узараных палёў, прыродны ландшафт не сапсаваны паўсюднай «распаханнасцю». Тут ужо зусім блізка беларуская мяжа. Можа, адміністрацыйнае пагранічча і абумоўлівае гаспадарчы заняпад гэтага кутка? А заняпад відавочны. Шмат старых і нефарбаваных хат, некаторыя з забітымі вокнамі, па вёсцы можна ездзіць хіба на трактары. Вельмі мала ў вёсцы моладзі.

Нарэшце спаткалі чалавека, які можа нам сёе-тое распавесці. Гэта Пётр Андрэевіч Пашкоў, 1924 года нараджэння. Калісьці ён працаваў настаўнікам у вясковых школах Рудняншчыны, цікавіўся мясцовым дыялектам. Запісваем ад яго «мясцовыя», так бы мовіць, словы. Ён распавядае нам, што сёння моладзь гэтых слоў ужо не ведае, вельмі мала хто памятае старыя песні, якія раней тут спявалася шмат. Абяцае нас правесці да тых, хто яшчэ памятае старыя часы.

Звяртаем увагу на мову Пятра Андрэевіча. Выразна цвёрдае «ч», невыбуховае «г», праўда, «р», як і ў суседніх магілёўскіх гаворках, мяккае. Сам Пётр Андрэевіч кажа, што тутэйшыя людзі гавораць «змешана», г. зн. на расейска-беларускай гаворцы. «Беларусія тут саўсім блізка»,—гаворыць ён, паказваючы рукой у бок лесу. За лесам ужо Рэспубліка Беларусь. «Раней больш было беларускіх слоў, а цяпер маладзёж ужо ні знае іх...»

Падамо некаторыя словы, якія пачулі ад Пятра Андрэевіча: маладзік настаў, зьзяюць, сёлета, летась, будучыня, цяпляк (паўднёвы вецер), сівер, хмаркі...

(Заканчэнне будзе).

# Пятро БІТЭЛЬ



18 кастрычніка 1991 года на 80-м годзе жыцця пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр вядомы беларускі паэт, празаік і перакладчык, выдатны педагог Пятро Бітэль.

Нарадзіўся Пятро Іванавіч Бітэль 6 чэрвеня 1912 года ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёна. Першая сусветная вайна закінула сям'ю Бітэляў у Наўгародскую губерню, дзе будучы пісьменнік пазнаў першую грамату. Па вяртанні ў 1921 годзе на бацькаўшчыну, ён вучыўся ў польскай сямігодцы, у 1931 годзе скончыў Віленскую настаўніцкую семінарыю і ў 1939 годзе Вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Вільні.

З 1931 па 1939 год працаваў (з перапынкамі) ў школах Нясвіжчыны і Стаўбцоўшчыны, служыў у польскім войку, у 1939 годзе ўдзельнічаў у польска-нямецкай вайне, а пасля ўз'яднання Беларусі працаваў у Валожыне настаўнікам, завучам, дырэктарам СШ № 2. Пад час нямецкай акупацыі быў вывезены на работу ў Германію. Пасля вызвалення з палону на пачатку 1945 года быў прызваны ў Савецкую Армію і служыў у ёй да лістапада 1945 года. Настаўнічаць пасля вайны давялося нядоўга, бо ў ліпені 1947 года быў звольнены з працы, а ў лістападзе 1950 года беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і да 1956 года адбываў зняволенне у працоўных лагерах у Омску і Джэзказгане. З 1956 па 1974 год выкладаў у Вішнеўскай СШ беларускую мову і літаратуру, нямецкую мову. За гэты час завочна скончыў філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. З 1974 года на пенсіі.

Друкавацца Пятро Бітэль пачаў у 1939 годзе. Асобныя вершы і празаічныя творы з'яўляліся ў рознай рэспубліканскай перыёдыцы. Яго паэмы «Замкі і людзі», «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», «Памятны верасень» напісаны на высокім мастацкім узроўні, з'явіліся багатым здабыткам беларускага нацыянальнага эпасу. Гістарычна-краязнаўчыя нарысы «Вішнева і вішнеўцы», «Баруны», «У нашым краі не чужыя» маюць навуковы характар, пераканаўча перадаюць каларыт эпохі і выклікаюць пачуццё пашаны да нашага мінулага.

Шырока вядомыя пераклады Пятра Бітэля з польскай мовы паэм «Пан Тадэвуш», «Гражына», «Конрад Валенрод», асобных санетаў і вершаў А. Міцкевіча, твораў М. Канапніцкай, Ю. Славацкага, польскамоўных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, з «Боскай Камедыі» А. Дантэ, з літоўскай твораў Э. Межэлайціса і іншых. Пераклады П. Бітэля пазначаны высокім майстэрствам, захаваннем духу арыгінала.

Светлая памяць пра Пятра Іванавіча Бітэля паэта, чалавека чыстай душы і нялёгкага лёсу, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

# Побач з Канстанцыяй Буйло

**Разам з такімі людзьмі адыходзіць цэлая эпоха. Толькі што Зоська Верас, і ўслед — Пятро Бітэль.**

**Улетку, наведаўшыся да Пятра Іванавіча апошнім разам, цвёрда дакляраваў яму быць перад Калядамі, у снежні, каб адсвяткаваць наш юбілей — 10 гадоў ад першай сустрэчы. Лёс распарадзіўся іначай. Чацвёрты інфаркт дагнаў Пятра Іванавіча на самым прыканцы восьмага дзесятка. Яшчэ адзін непрычаканы юбілей. Гэтым разам — для сям'і, родных і блізкіх, для ўсёй беларускай літаратуры — 80-годдзе паэта, перакладчыка, краязнаўца, мужа, бацькі, дзеда і прадзеда. Былога настаўніка і былога палітвязня з савецка-казахстанскага лагера Джэзказган.**

**Зірнуўшы збоку, 80 гадоў — паважаны, зайздросны век. Можна думаць і пра спачын. Але мне дужа балюча было стаяць ля труны, бо я ведаю, колькі б яшчэ зрабіў гэты ціхі працаўнік, адпусці яму лёс хоць пару вёснаў. Тое, што менскія перакладчыкі не паспявалі перакласці за год, ён рабіў за лічаныя месяцы ў сваёй старасвецкай хаціне пад векавымі дрэвамі, далёкі ад сталічнай мітусні.**

**Тады, у снежні 1981 года, прыехаўшы да яго ў Вішнева з прапановаю перакласці з польскай мовы некалькі вяліхіх твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча для новага выдання аднатомніка спадчыны класіка беларускай літаратуры, на руках Пятро Іванавіч меў усяго адну выдадзеную кніжачку — паэму «Замкі і людзі». За дзесяць гадоў іх стала паўдзесятка, арыгінальных і перакладных. Калі дыхнулі першыя павевы галоснасці, яго па праву прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Здавалася, самы час працаваць. І ён працаваў. І не ўсё з рукапісаў Пятра Іванавіча вядома пакуль што чытачам.**

**Сёння асабліва балюча ўсведамляць, што сам Пятро Іванавіч не дачакаўся патрымаць у руках галоўную кнігу жыцця — пераклад «Пана Тадэвуша», выкананы ў нялюдскіх умовах савецкага ГУЛАГа.**

**Апошні спачын Пятро Бітэль здабыў на вішнеўскай зямлі, побач з магілай Канстанцыі Буйло. Мусіць, так яно справядліва. Сам нябожчык прызнаваўся, што з усіх мясцінаў Беларусі, куды ні закідваў яго нялёгкі лёс, найдаўжэй ён прабыў на Вішнеўшчыне і палюбіў яе сыноўняй любоўю. Няхай мяккай будзе яму родная зямля.**

**Пакутнік, ён заслужыў на гэта спакой.**

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

# Віктар ХАЎРАТОВІЧ



17 кастрычніка 1991 года на 58-м годзе жыцця раптоўна памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Віктар Кандратавіч Хаўратовіч.

Віктар Хаўратовіч нарадзіўся 21 чэрвеня 1934 года ў вёсцы Сінін Магілёўскага раёна. У 1954 годзе скончыў Магілёўскі будаўнічы тэхнікум. Служыў у Савецкай Арміі, пасля дэмабілізацыі працаваў на будоўлях майстрам, затым прарабам, інжынерам на Магілёўшчыне. З 1966 па 1969 г. вучыўся на філалагічным факультэце Магілёўскага педагагічнага інстытута. З 1979 года ўзначальваў літаратурнае аб'яднанне «Натхненне» пры Бялыніцкай раённай газеце, быў старшынёй раённага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Бялынічах.

Першыя вершы Віктар Хаўратовіч надрукаваў у 1961 годзе ў мясцовым друку. Затым яго творы змяшчаліся на старонках часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», у «Днях паэзіі». У 1983 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга вершаў паэта «Сонца на кельме». Жыццёвы вопыт і веды будаўніка, успаміны дзяцінства, апаленага вайной, — асноўнае ў гэтай кнізе. У ёй — праўдзівы вобраз сучасніка, любоў да Бацькаўшчыны, выказаны шчыра, па-грамадзянску ўсхвалявана. І як працяг яснага лірычнага роздуму над жыццём у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1990 г. выходзіць яшчэ адна кніга вершаў — «Зямныя колеры і гукі».

Светлая памяць пра Віктара Кандратавіча Хаўратовіча, паэта, чалавека чыстай, шчодрай душы, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смутнуе з прычыны смерці пісьменніка Пятра Бітэля і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смутнуе з прычыны раптоўнай смерці пісьменніка Віктара Хаўратовіча і выказвае спачуванне родным і блізкім набожчыка.**

**Вайна, аб'яўленая бальшавікамі ці не з першага дня кастрычніцкага перавароту рэлігіі, царкве, духавенству,— цалкам амаральная. Гэта было злачынства, і тут дзвюх розных думак быць не можа. Сёння можна толькі радавацца, што ўсё гэта сплыло ў мінулае, што прыцясненне вернікаў успрымаецца сумленнымі людзьмі як адна з самых змрочных старонак савецкай гісторыі.**

**Але нельга не заўважыць і таго, што і сённяшняму «павароту» грамадства да рэлігіі бракуе пачуцця меры. Так ужо павялося ў нашай блаславёнай дзяржаве—або-або. Учора здзекаваліся з «рэлігійнага дурману», сёння многія вернікі, служкі царквы імкнуцца ўзяць рэванш, прычым, як трапна заўважыў з гэтай нагоды на старонках «ЛіМа» адзін наш сталы аўтар, тымі ж бальшавіцкімі метадамі. Ужо, аказваецца, атэізм несумяшчальны з такімі паняццямі, як мараль, прыстойнасць, высакародства, чалавекалюбства і да т. п. Усе гэтыя якасці, маўляў, можа выхаваць у чалавека толькі вера ў Бога. Не будзем дыскутаваць на гэтую тэму. Заўважым толькі, што і царква была далучана да самых агідных злачынстваў супраць чалавечнасці.**

**Верны ідэі плюралізму, паважаючы права кожнага чалавека выказваць публічна свае думкі і погляды, «ЛіМ» сёння прадастаўляе свае старонкі А. Цыркунову, друкуючы ягоны артыкул «Хто ідзе дарогай да храма». Многа ў ім слушнага, з сім-тым пагадзіцца цяжка, але, у рэшце рэшт, чытач сам ва ўсім разбярэцца.**

# Хто ідзе дарогай да храма

Па меры таго, як дзейнасць кампартыі і яе карных органаў усё больш і больш выкрываецца, магчыма, усё часцей і часцей будуць гучаць заклікі да камуністаў пакаяцца ў здзейсненых злачынствах, паспрабую паказаць, што пакаянне кампартыі — справа нерэальная, перш за ўсё таму, што пакаянне з'яўляецца самым шчырым, самым інтымным духоўным дзеяннем.

У мяне няма дакладных звестак аб ахвярах беларускага аддзела ДПУ, таму буду аперыраваць толькі звесткамі з расійскіх архіваў і савецкай прэсы, бо, зрэшты, почырк чэкістаў быў усюды аднолькавы.

Вядомы фільм грузінскага кінарэжысёра Тэнгіза Абуладзе «Пакаянне» заканчваецца тым, што мудрая старая жанчына пытаецца ў маладой, ці прыводзіць абраная ёю дарога да храма. Пачуўшы адмоўны адказ, яна кажа: для чаго ж патрэбная такая дарога, якая не вядзе да Храма? Так, без Храма не можа быць сапраўднага пакаяння. Але да Храма прыходзілі не толькі маліцца і каяцца. Камуністы прыходзілі туды, каб і... забіваць. Хрысціянскі пісьменнік Міхаіл Вострышаў у сваёй дакументальнай кнізе «Божы выбраннік», прысвечанай замучанаму бальшавікамі Патрыярху Ціхану, прыводзіць такія факты: «Свяшчэнніка Нікольскага вывелі з жаночага манастыра Марыі Магдаліны, прымусілі адкрыць рот, уклалі ў яго дула маўзера і са словамі: «Вось мы цябе прычасцім» стрэлілі. Свяшчэнніка Дзмітрыеўскага паставілі на калені, спачатку адсеклі нос, потым вушы і нарэшце галаву. У Херсонскай епархіі трох свяшчэннікаў распялі на крыжах. У горадзе Багадухаве ўсіх манахінь, не пажадаўшых пайсці з манастыра, прывялі на могільнік да выкапанай магілы, адрэзалі ім саскі і жывых пакідалі ў яму, а зверху кінулі яшчэ дыхаючага старога манаха. Засыпаючы яму зямлёю, крычалі, што спраўляецца манаскае вяселле».

Яшчэ цытата: «Яго прывялі на расстрэл з двума сынамі і спыталі: «Каго спачатку забіць — вас ці сыноў?» Айцец Арнацкі адказаў: «Сыноў». Пакуль расстрэльвалі, ён, стаўшы на калені, чытаў «адыходную». Расстрэльваць айца Арнацкага ўзвод чырвонаармейцаў адмовіўся. Адмовіліся страляць і выкліканыя кітайцы. Тады да бацюшкі падышоў малады камісар і стрэліў з рэвальвера ва ўпор».

На зямлю прыйшло такое, чаго не ведаў Рым часоў Нерона. Расстралялі мітрапаліта Кіеўскага Уладзіміра. Пасля катаванняў архіепіскапа Варонежскага і Задонскага Ціхана павесілі на царскіх варотах царквы Мітрафаньеўскага манастыра. Архіепіскапу Пермскаму і Кунгурскаму Андроніку, які праславіўся місіянерскай дзейнасцю ў Японіі, адрэзалі вушы і выкалалі вочы, пасля чаго доўга вадзілі па вуліцах Пермі, а потым утапілі ў рацэ. У Табольску замучылі архіепіскапа Гермагена. Рэвельскага епіскапа Платона аблівалі на марозе вадою, пакуль ён не ператварыўся ў ледзяны слуп. Усё гэта не пераказ фільма жахаў, а быль. Жудасная быль.

У барацьбу з рэлігіяй уключылася і прэса: «Малітвы Патрыярха не дайшлі да Госпада Бога. Яны былі перахоплены ДПУ»,— хваліўся журналіст Ольдэр у газеце «Правда». Прадажныя журналісты з «Известий ВЦИК» фабрыкавалі «пісьмы з глыбінкі»: «Мы, беспартыйныя сяляне Загорскай воласці, пачуўшы, што ў самай бліжэйшай будучыні мае быць судовы працэс над Патрыярхам Ціханам, заяўляем, што ён крывасмок у расе, контррэвалюцыянер і людаед... Мы патрабуем ад цэнтральнай Савецкай улады вынесці крывасмоку Патрыярху Ціхану суровую і бязлітасную меру пакарання...»

Гэта ўжо былі першыя рэпетыцыі пазнейшых масавых працэсаў над «ворагамі народа».

Яшчэ не ведаў сваёй долі і «любімец партыі», галоўны рэдактар газеты «Правда» М. Бухарын, сцвярджаючы ў папулярнай тады сваёй кніжцы «Азбука камунізму», што вера ў Бога ёсць выдумка буржуяў.

Падлічана, што, пачынаючы ад кастрычніцкага перавароту да 1922 года, было зліквідавана больш за 700 манастыроў. Толькі па суду расстраляна 1962 манахі і 3447 манахінь і паслушніц, а таксама 1691 чалавек белага духавенства (свяшчэннікаў). Без суда і следства было знішчана больш за 15 000 чалавек чорнага і белага духавенства. Колькі было знішчана цэркваў, мячэцяў, сінагог і малебных дамоў, можна толькі здагадвацца.

У маі 1932 года дэкрэтам бальшавіцкага ўрада была аб'яўлена «бязбожная пяцігодка», якая ставіла сваёй мэтай да 1 мая 1937 года рэлігію ў СССР знішчыць назаўсёды.

Псіхолагамі заўважана, што чалавек, у якога адсутнічаюць духоўныя крытэрыі і прынцыпы, як правіла, пазбаўлены і ўсялякіх маральных прынцыпаў. Такі індывід не ведае, што такое гуманнасць і міласэрнасць. Такому чалавеку значна лягчэй было дасягнуць наменклатурных вышынь і ўтрымацца на іх, чым чалавеку, «прыгнечанаму» такім «цяжарам», як сумленне. Сумленне (калі яно ёсць) так ці іначай заўсёды звязана з рэлігіяй, нават калі чалавек аб гэтым і не здагадваецца. «Калі Бога няма—усё дазволена», — сказаў вялікі мудрэц Ф. М. Дастаеўскі.

Сапраўды, сумленны чалавек не змог бы карыстацца незаслужанымі прывілеямі, ведаючы, што ў іншых людзей такіх прывілей няма. Сумленны чалавек не змог бы з'есці (у горле б перасела) далікатэсную і такую рэдкую ў наш час ікру, ведаючы, што хворыя лейкеміяй дзеткі так званых «простых» людзей і ў вочы яе не бачылі. Сумленны чалавек не змог бы займаць вялізныя апартаменты і катэджы, ведаючы, што перасяленцам з чарнобыльскай зоны не хапае жылля. Сумленны чалавек не змог бы рабіць турыстычныя круізы за кошт Дзіцячага фонду і г. д.

Тыя, хто ўсё гэта рабіў, не былі юрыдычна прызнаныя злачынцамі толькі таму, што судовыя справы супроць іх нідзе і ніколі не ўзбуджаліся.

Ці магла камуністычная наменклатура судзіць сама сябе?

Можна спытаць, як ён з'явіўся, той цынічны і жорсткі гомасаветыкус? Знакаміты нямецкі філосаф мінулага стагоддзя Артур Шапенгаўэр, якога асабліва ненавідзелі камуністычныя ідэолагі, як у ваду глядзеў, калі пісаў: «На месца сапраўднай адукацыі заступае свайго роду дрэсіроўка. Можна з аднолькавым поспехам прывіць людзям і справядлівае, і разумнае, і самае бязглуздае,— прывучыць іх, напрыклад, набліжацца да таго ці іншага ідала не інакш, як са свяшчэнным трымценнем, і пры вымаўленні яго імя кідацца на калені, дрыжаць не толькі ўсім целам, але і ўсёю сваёй душой, аддаваць добраахвотна сваё жыццё за словы, за імёны ў абарону самых невераагодных глупстваў. Словам, можна прывучыць людзей да ўсяго. Трагізм такіх памылак у практычным значэнні, камізм — у тэарэтычным: няма бязглуздзіцы, якая, калі яе ўнушыць спачатку траім, не змагла б стаць усенародным перакананнем». Рэлігія дзейнічае на людзей інакш. Усе вялікія сусветныя рэлігіі пабудаваны на грунце дабра і служаць толькі добрым справам і разумнаму сэнсу. Вось што гаварыў Магамет: «Дасканалейшы з людзей той, хто любіць усіх блізкіх сваіх і робіць ім дабро без разбору, добрыя яны ці дрэнныя».

У будысцкіх кнігах гаворыцца наступнае: «Хто добры чалавек? Добры чалавек толькі веруючы чалавек. А што такое вера? Гэта згода сваёй волі з сумленнем, з сусветным розумам». У Талмудзе сказана: «Добры чалавек — гэта той, хто памятае свае грахі і забывае пра тое, што ёсць у ім добрага, а злы, наадварот, гэта той, хто памятае, што ён зрабіў добрага, і забывае пра свае грахі. Не даруй сабе, і тады лёгка будзеш дараваць другім».

Святое Евангелле пабудавана толькі на паняццях любві і дабра: «І адзін з іх, законнік, спакушаючы Яго, спытаў, кажучы: «Настаўнік! Якая найбольшая запаведзь у законе? Ісус сказаў яму: «Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім і ўсёю душою тваёю і ўсім разуменнем тваім: гэта ёсць першая і найвялікшая запаведзь. Другая ж, падобная да яе: «Палюбі блізкага твайго, як самога сябе».

На вялікі жаль, акрамя рэлігіі дабра, міласэрнасці, самаўдасканалення на шляху дабрачыннасці, пад выглядам рэлігіі могуць дзейнічаць сілы зла. Акадэмік Д. С. Ліхачоў пісаў: «Усе рэлігійныя сістэмы нясуць у сабе культуру. Толькі атэізм — рэлігійная сістэма без культуры».

Знішчаючы рэлігію, бальшавіцкая дыктатура знішчыла мільёны веруючых, ліквідавала працавітае сялянства, адлучыла ад сумленнай і прадукцыйнай працы рабочых. Гэта дыктатура прывяла народ да галечы, бездухоўнасці, алкагалізму, не бачанай раней злачыннасці, знішчыла культуру, народныя традыцыі, шматвяковыя помнікі. Яна прывяла да эканамічнай і экалагічнай катастрофы і, нарэшце, да Чарнобыля.

Ёсць у чым пакаяцца б бальшавікам. Уся справа ў тым, як і для чаго каяцца.

«Пакаянне,— пісаў вялікі пісьменнік-гуманіст Л. М. Талстой,— ёсць ганьбаванне ўсяго дрэннага ў сабе, ёсць чыстка душы, прыгатаванне яе да прыняцця дабра». Ды што ўжо гаварыць пра гэта, калі неабальшавікі і сталіністы на чале з Нінай Андрэевай і цяпер ніяк не могуць «поступиться принципами» і заяўляюць, што ўсё зробленае бальшавікамі за семдзесят тры гады іх нічым не абмежаванага панавання было найвялікшым дасягненнем чалавецтва.

Адзін з буйнейшых хрысціянскіх пісьменнікаў дваццатага стагоддзя Томас Мэртан пісаў: «Ёсць самаўпэўненая нянавісць, моцная і жорсткая, якая цешыцца сваёй нянавіснасцю таму, што яна накіравана на іншага. Але нянавісць у любой форме — самаразбуральная і нават, трыумфуючы фізічна, яна трыумфуе на развалінах уласнага духу».

Рэлігія выхоўвае ў чалавеку і прыстойнасць, якой многім атэістам ой як не хапае. Прывяду такі прыклад. Першага верасня гэтага года ў перадачы па расійскім радыё народны дэпутат РСФСР спадар Аксючыц заявіў: «Хоть я родился в Западной Белоруссии и по паспорту являюсь белорусом, но считаю себя русским потому, что до Октябрьской революции территория, на которой я родился, входила в состав России как Северо-Западный край». Справа нават не ў тым, што грамадзянін Расіі Аксючыц не прызнае беларушчыны і лічыць сябе рускім. Усе сумленныя беларусы з вялікай пашанай адносяцца да братняга рускага народа, народа, які зусім нядаўна адстаяў на барыкадах Масквы не толькі сваю свабоду, дэмакратыю і незалежнасць, але і правы на гэта прыбалтаў, беларусаў, украінцаў, грузін і ўсіх іншых народаў СССР.

Справа ў тым, што міграцыя грамадзяніна Аксючыца з адной нацыянальнасці ў другую носіць яўна меркантыльны, шкурны характар. Можна быць упэўненым у тым, што калі б гэтага Аксючыца выбралі ў польскі сейм, ён з такой жа лёгкасцю назваў бы сябе палякам, матывуючы гэта тым, што Заходняя Беларусь, дзе ён калісьці нарадзіўся, уваходзіла да вайны ў склад Рэчы Паспалітай. У чым жа каяцца спадару Аксючыцу, калі для яго Бацькаўшчына такая ж «terra incognito», як і паняцце пакаяння? Пакаянне — гэта, перш за ўсё, ахвяра. Каб каяцца па-сапраўднаму, недастаткова біць сябе кулакамі ў грудзі, а калі трэба, то і адмовіцца ад пасады, утульнага крэсла, раскошнай дзяржаўнай дачы, службовай машыны з шафёрам, падарожжаў за мяжу за кошт дзяржавы і г. д. Дарога да Храма адкрыта кожнаму, але не кожны ідзе па гэтай дарозе. Тым, хто ідзе,— хвала і пашана!

**А. ЦЫРКУНОЎ.**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ. Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ—33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: —33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12